

Іаанна МАРКО ➔3

Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714




У абароне габрэяў ➔4

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 07 (3327) Год LXV Беласток, 16 лютага 2020 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

# Маліцца да мучанікаў вазакоў

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**

**На зломе студзеня і лютага ў Гайнаўскім і Бельскім паветах ушаноўвалася памяць звыш 80 мірных жыхароў нашых сёл, у асноўным праваслаўных беларусаў, забітых і спаленых 74 гады таму атрадам Нацыянальнага вайсковага задзіночання пад камандаваннем капітана Рамуальда Райса «Бурага». У кастрычніку мінулага года Сабор епіскапаў Польскай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы забітых без прысуду каля Пухалаў-Старых вазакоў далучыў да ліку святых мучанікаў Холмскай і Падляшскай зямлі. Мошчы святых мучанікаў, у мінулым гаспадароў з Краснага Сяла, Збуча, Чыжоў і іншых нашых вёсак, знаходзяцца ў супольнай магіле на вайсковым могільніку ў Бельску-Падляшскім. Ушанаванне 74 гадавіны трагічных здарэнняў пачалося там з малітваў да нашых мучанікаў і праходзіла асабліва ўрачыста.**

Цяпер ужо афіцыйна могуць маліцца да нашых святых мучанікаў жыхары вёсак, у якіх яны жылі, працавалі, выхоўвалі сваіх дзяцей або як маладыя хлопцы яшчэ толькі ўзрасталі і радаваліся жыццём разам са сваімі равеснікамі. Усе нашы вернікі будуць маглі прасіць у мучанікаў заступніцтва ў Бога, дапамогі ў жыццёвых выпрабаваннях. Зараз жывуць у нашых вёсках і гарадах нашчадкі і сваякі мучанікаў, якія 31 студзеня прыехалі ў Бельск-Падляшскі на святкаванні. Раней моцна смуткавалі па прычыне іх пакутніцкай смерці, а зараз таксама радуюцца, што ўключаны яны ў лік святых мучанікаў. Спачатку ў Царкве Пакровы Божай Маці ў Бельску-Падляшскім была адслужана літургія. Малітвы меў узначальваць архіепіскап Грыгорый, але захварэў. У саслужэнні святароў бельскіх прыходаў малітвы ўзначаліў дэкан бельскай акругі, мітрафорны протаіерэй Лявонцій Тафілюк. Вернікі маліліся ў Пакроўскай царкве да святых мучанікаў і прасілі ў іх дапамогі ў жыццёвых няшчасцях.

Святары, вернікі і паломнікі пасля літургіі пераехалі на вайсковы могільнік і там маліліся ля магілы з мошчамі нашых падляшскіх мучанікаў. Адчувалася радасць, што нашы сяляне, якія былі нявінна забіты, уключаны ў лік святых мучанікаў. Хаця яшчэ толькі пачалося будаванне культу падляшскіх мучанікаў, у Збучы Чыжоўскага прыхода была ўзведзена Царква св. мучанікаў Холмскай і Падляшскай зямлі. Па выбраных нядзелях служацца там літургіі, а вернікі заносяць малітвы таксама да загінуўшых на Беласточчыне святых мучанікаў.

— Сёння дзень памяці нашых мучанікаў, гадавіна трагічнага дня, калі вазакі аддалі жыццё за Хрыста. Паколькі наша Польская Аўтакефальная Праваслаўная Царква далучыла іх да святых мучанікаў Холмскай і Падляшскай зямлі, мы молімся аб заступніцтва нашых святых у Бога, — заявіў настаяцель Пакроўскай царквы ў Бельску-Падляшскім мітрафорны протаіерэй Ян Шмыдкі, які ўзначаліў малітвы каля магілы святых мучанікаў.

Семдзесят чатыры гады таму каля Пухалаў-Старых атрад «Бурага» забіў 31 вазакоў. Каля пяцідзесяці гадоў іх сямейнікі не ведалі да канца, што здарылася з іх блізкімі і дзе знаходзяцца іх астанкі. У пяцідзясятых гадах былі яны перапахаваны з лесу каля Пухалаў-Старых на могільнік у Кліхах. У дзевяностых гадах мінулага стагоддзя сем'і вазакоў даведаліся, што іх блізкіх забіў атрад «Бурага». У 1997 годзе адбылася эксгумацыя астанкаў вазакоў і перапахаванне на вайсковы могільнік у Бельску-Падляшскім.





■ Ваяводскі радны Славамір Назарук (на другім плане справа) і старшыня Сейміка Падляшскага ваяводства Багуслаў Дэмбскі ўскладваюць вянок на магіле

Пасля малітваў ля магілы святых мучанікаў удзельнікі ўрачыстасці ўсклалі вянкі, кветкі і запалілі лампадкі. Бельскі радны Тамаш Суліма, адзін з арганізатараў бельскіх святкаванняў у гонар святых мучанікаў Холмскай і Падляшскай зямлі спадзяецца, што значэнне такіх святкаванняў будзе расці і разлічвае, што ў будучыні будуць яны арганізавацца на дзяржаўным узроўні. Ваяводскі радны Славамір Назарук станоўча ацаніў рашэнне старшыні Сейміка Падляшскага ваяводства Багуслава Дэмбскага, які прыехаў у Бельск, каб на месцы даведацца пра трагедыю, прычыненую атрадам «Бурага».

— Я штогод прыязджаю сюды маліцца ля магілы, паколькі мой бацька тут ляжыць, які загінуў за нашу праваслаўную веру. Страціўшы бацьку, мы так многа нацярпеліся, а тых, што забівалі, лічаць цяпер героямі. Аднак я цешуся, што сёння сабралася тут так многа людзей, каб ушанаваць памяць забітых вазакоў і мы, сямейнікі пакутнікаў, ім удзячны. У мінулых гадах таксама многа людзей сюды прыязджала і падтрымлівала нас. Цяпер мы радуемся, што нашага бацьку і іншых забітых вазакоў сталі лічыць святымі мучанікамі, — заявіла Валянціна Кярсноўская, родам з Падрэчан, якая цяпер жыве ў Гайнаўцы і прыбыла на ўрачыстасці разам са сваім мужам Янам і шваграм Васілём Іванюком з Бельска-Падляшскага. Заявілі яны, што калі сталі ўзвялічваць святых мучанікаў, адчулі ў сэрцах радасць.

— Калі астанкі вазакоў перавозіліся ў Бельск-Падляшскі, я быў бургамістрам Бельска і стараўся дапамагчы іх сямейнікам выканаць гэтую задуму. Стаў прыходзіць сюды, каб ушаноўваць памяць ахвяр атрада «Бурага» і цяпер рады, што сёлета маглі мы ўжо маліцца да нашых вазакоў як да святых мучанікаў, — заявіў дырэктар Бельскага белліцэя Андрэй Сцепанюк.

— Малітвы да падляшскіх мучанікаў у Пакроўскай царкве і тут, каля іх магілы, нам важныя. Я рады, што мы сталі ўжо маліцца да іх як да святых, — заявіў старшыня Беларускага гістарычнага таварыства прафесар Алег Латышонак, які ў Пакроўскай царкве заахвочваў паглядзець экспазіцыю «Наша памяць».

Пазней у бары «Анна», распаложаным насупраць вайсковага могільніка ў Бельску, удзельнікі святкавання трагічнай гадавіны размаўлялі за кавай і гарбатай. Журналістка Анэта Прымака-Онішк расказвала пра матэрыялы, якія збірае да сваёй новай кніжкі пра пасляваенны перыяд, калі на Сакольшчыне, каля Дубровы-Беласточкай ці ў наваколлі Сямятыч людзі з лесу або з суседніх вёсак прыходзілі, рабавалі харчаванне, запалохвалі і забівалі мірнае насельніцтва. Паслядоўнасцю гэтага быў выезд запалоханага праваслаўнага насельніцтва Беласточчыны ў Савецкі Саюз.

Урачыстасць ушанавання памяці 16 жыхароў Залешан, забітых атрадам «Бурага», калі амаль цалкам была спалена вёска, адбылася 29 студзеня, якраз у 74 гадавіну трагічнага здарэння. Удзельнікі ўрачыстасці разам з настаяцелем Кляшчэлеўскага прыхода протаіерэем Паўлам Нікіцюком маліліся каля крыжоў, у месцы, дзе сагнаны жыхары вёскі былі падпалены ў хаце. Пазней адбылося асвячэнне аднаўленага помніка ахвярам «Бурага», пастаўленага ў шасцідзясятых гадах, ускладанне вянкоў, кветак і запальване знічоў. Вянкі і кветкі ўсклалі, між іншым, парламентарыі, а ў іх ліку віцэ-маршалак Сейма РП Уладзімеж Чажасты і старшыня партыі «Разам» Адрыян Зандберг, ды самаўрадаўцы Гайнаўшчыны. Урачыстасць арганізавалі бургамістр Кляшчэляў Аляксандр Сяліцкі разам з Успенскім прыходам у Кляшчэлях і жыхарамі Залешан. Мясцовыя жыхары спадзяюцца, што апрача вазакоў і іншыя забітыя атрадам «Бурага» будуць з часам далучаны да ліку святых мучанікаў Холмскай і Падляшскай зямлі.

У Цэнтры адукацыі і прамоцыі беларускай культуры «Шчыты» ў Шчытах-Дзенцялове ў гэты сам дзень пасля абеду з дакладам пра крывавы рэйд атрада «Бурага» і яго паслядоўнасці выступіў старшыня Беларускага гістарычнага таварыства прафесар Алег Латышонак. Прэзентавалася там таксама выстава «Наша памяць» і адбылася сустрэча з Сяргеем Нічыпаруком, родам з Залешан, героем дакументальнага фільма Юрыя Каліны «Сярожа», які гаварыў пра трагедыю ў яго роднай вёсцы.

Дзень раней, 28 студзеня, у Залешаны заехала афіцыйная дэлегацыя Рэспублікі Беларусь, вяртаючыся са святкаванняў 75-годдзя вызвалення вязняў фашысцкага канцлагера Аўшвіц-Біркенаў, якія адбыліся 27 студзеня. Вянок і кветкі каля адрамантаванага помніка ўсклалі намеснік старшыні Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Беларусі Анатоль Ісачанка, амбасадар Рэспублікі Беларусь у Польшчы Уладзімір Чушаў і консул Рэспублікі Беларусь у Беластоку Ала Фёдарава. 30 студзеня мясцовыя

чытайце ☞ 10



# Галоўная тэма



Але ж і ляманту нарабілі зараз у медыйнай прасторы пасля сустрэчы кіраўнікоў Беларусі і Расіі ў Сочы! Нібыта чакалі ад гэтай сустрэчы чаго іншага! І з большага ўсё пра кошты на нафту трызвоняць, нібыта гэта было галоўнае ў той сустрэчы. Вельмі ўсім цікава стала, ці падаражае ў Беларусі салярка?!

Адказваю, абавязкова падаражае. Не сумнявайцеся. Але гэта не таму, што начальнікі Беларусі і Расіі не змаглі дамовіцца паміж сабой пра кошт нафты. Салярка будзе даражэць у кожным выпадку і аніякія дамоўленасці на тое не паўздзейнічаюць. Але не рэзка падаражае. Гэта і ёсць нікім неразгаданая таямніца нашай унікальнай эканамічнай мадэлі.

Як гэта паўплывае на жыццё беларусаў? Ды аніяк. У беларусаў зараз такое жыццё, што ў глабальным сэнсе нішто на яго паўплываць не можа. Вазілі салярку ў Польшчу,араблялі на гэтым, цяпер павязуць з Польшчы. І таксама крыху заробяць. Як некалі з тэлевізарамі, бытавой хіміяй і іншымі таварамі... Трэба ж неяк эканамічны баланс падтрымліваць. Колькі вывезлі, столькі і ўвязуць. Поўны эканамічны парытэт і справядлівасць.

У разе чаго з Расіі прывалакуць тую салярку. І ў бензабаках, і ў цыстэрнах, і ў кішэнях калі прыйдзецца. Валакуць жа неяк у Расію беларускага ласося, беларускіх крэветак, беларускі сыр „Пармезан" і іншыя прадукты, на якія Расія ўвяла санкцыі. Мяжа ж то між Расіяй і Беларуссю вельмі празрыстая. Таму, калі расійскі кіраўнік жадае, каб у беларусаў рэзка павялічыўся кошт на салярку, спачатку трэба павялічыць кошт на нафту для сябе. Або аддзяліцца ад Беларусі сапраўднай мяжой, што тут, у Сінявокай, будзе ўспрынята з радасцю і ўсенародным адабрэннем.

Ні на тое, ні на другое, ён не пойдзе. Бо не кошт на нафту яго турбуе!!!

Ну а сённяшнія кіраўнікі Расіі і Беларусі дамовяцца. Няма аніякіх сумневаў у тым, што яны знойдуць агульную мову. Па вялікім рахунку, яны ўжо даўно пра ўсё дамовіліся! У галоўным аспекце, вядома ж! А ўсё астатняе, гэта шалупінне. Ну а нейкія там перыядычныя сваркі між імі на людзях, дык як жа без гэтага?! У кожных так бывае. З гадамі нервы падводзяць, ды і сумна без чарговай порцыі адрэналіну. Таксама ж не жалезныя. Але як сцвярджае расійская народная прымаўка — мілыя лаюцца, дык толькі цешацца.

Ды і яшчэ адна народная мудрасць, цяпер ужо беларуская, кажа, што груган гругану вока не выдзеўбе. То навошта ім сваім прыкладам абвяргаць гэтую праўду жыцця? Асабліва тады, калі яна ім патрэбная як конь цыганам! Яны ж аднадумцы ў галоўным! Яны хочуць кіраваць сваімі краінамі да апошніх дзён сваіх, ну і яшчэ хочуць каб апошнія дні надышлі не вельмі хутка. І калі пра працягласць дзён трэба дамаўляцца з кім іншым, то пра кіраванне сваімі краінамі яны могуць параэмаўляць паміж сабой і толькі. Прынамсі, яны так думаюць.

Ёсць між імі невялічкія рознагалоссі. Расійскі кіраўнік хоча павялічыць свае ўладанні за кошт усёй Беларусі. Ён гэтага і не хавае. Беларускі ж, наадварот, хіба што свае не супраць быў бы павялічыць за кошт усяго ўсходняга суседа. На першы погляд розніца невялікая. Але гэта толькі ў матэматыцы так, што ад перамены складаемых сума не мяняецца. У палітыцы акурат перамены і ёсць галоўным.

Таму яны яшчэ разок другі сустрэнуцца, і дамовяцца пра кошты на нафту на нейкі час. А там далей хто яго ведае? Як кажа яшчэ адна мудрасць, цяпер ужо ўсходняя, можа з ішаком што здарыцца, можа з падзішахам... А можа з іншымі краінамі што, або з глабальным пацяпленнем, ці фемінізацыяй планеты?! Жывём жа як на вулкане! Нішто не вечна...

Тым больш, што ёсць чым заняцца. Зараз на нашых геаграфічных шыротах стала модна мяняць канстытуцыі. Таксама тэма нумар „уан", падкінутая для медыйнай прасторы. Як быццам бы мы жывём па гэтым галоўным законе, што ўсе так моцна клапоцяцца пра змест яго новай версіі. Ці можа хто сумнявацца, што парламенты такіх краін як Беларусь і Расія могуць не прыняць прапанаваных кіраўнікамі гэтых краін паправак?! Ды яны, тыя парламенты, за папраўкі ў Біблію прагаласуюць аднагалосна, калі пра гэта іх ласкава папросяць людзі, якія, нібыта, між сабой не дамовіліся пра кошт нафты.

Таму, не нафта ёсць тэма! Тэма тут ёсць толькі Незалежнасць! Прынамсі для нас, беларусаў.

**Віктар САЗОНАЎ**

# Нічога пэўнага

Праблема з інтэрнэтам заключаецца ў тым, што калі ён патрэбны ці нават неабходны, ён здаецца быць таксама небяспечным і нават шкодным. Хаця інтэрнэт лучыць людзей. А дакладней, з таго моманту, калі мільярды чалавечых пальцаў амаль арганічна звязаны з клавіятурай камп'ютараў ці айпадаў, ён сам стаў глабальным камунікатарам. Я пісаў: «амаль», і тым не менш многія з іх ужо перайшлі біялагічную мяжу, якая аддзяляе рэальнасць ад лічбавага свету, ператвараючыся ў страшных кіберзомбі, прысутных целам і адсутных духам. Мы бачым іх кожны дзень, з вачыма ўбітымі ў экран айфона, сляпых і глухіх на тое, што адбываецца ў рэальнасці. Аднак інтэрнэт — сапраўдны інструмент. Любая падзея ў ім распаўсюджваецца з хуткасцю святла. Дзякуючы гэтаму мы ведаем, што хвіліну таму гнілая пальма, збітая ветрам, прыдушыла на смерць няшчаснага жыхара Папуі-Новай Гвінеі Таксама мы ведаем, якая колькасць ахвяр каронавіруса ва Ухані. На момант, калі я пішу гэтыя словы — гэта 821 чалавек! А заўтра? Не лічачы дзясяткаў тысяч заражаных, прагрэсавальная колькасць загінулых ад новага віруса жахлівая. Кітайская эпідэмія можа атрымаць сусветнае вымярэнне пандэміі. Можа, гэта не значыць, што павінна. Праз інтэрнэт людзі могуць пасьпяхова мабілізавацца да самаабароны ад усеагульнай чумы. І ў гэтым яго сіла. Але хуткі інфармацыйны паток — не адзіная перавага інтэрнэту. Праз яго лёгка ўвайсці ў мультыбібліятэку чалавечых ведаў. Адзін клік на клавішы адкрывае яе бясконцыя рэсурсы. Іншая справа, ці правільна альбо эфектыўна яны эксплуатуюцца. Як правіла, людзі без роздуму і, нягледзячы на эфекты, спажываюць тое, што ім лёгка даступна. Сёння вугаль, нафта, лясныя запасы, пітная вада і чыстае паветра скончыліся. Сапраўды гэтак жа веды, якія ўсё яшчэ з'яўляюцца ведамі, пакуль чалавечы інтэлект здольны правільна і разумна спасцігнуць іх. У адваротным выпадку яго карыснасць вычарпана. Біблейская прытча пра будаўнікоў Вавілонскай вежы мае тут нешта супольнае. Праўда, мы разумеем ньютанаўскую фізіку, якая цалкам засвойваецца ў школе, але мала хто з нас разумее прынцып GPS, заснаваны на адкрыццях квантавай фізікі. Зразумела, яго абслугоўванне простае. Толькі тое, што кожны інструмент, над якім мы губляем інтэлектуальны кантроль, замыкае нас у рабстве паўтаральных прыкладанняў, у адрозненне ад вывучанай малпы, узнагароджанай бананам, калі яна пацягне правільны шнурок. Але будзьце асцярожныя, эвалюцыя любіць раптоўныя павароты! Недалёка *Homo Sapiens* ад *Troglodytes*. Пакуль мы ўважліва ўзважваем праблему, ці змест інтэрнэту дае нам інтэлектуальнае развіццё і задавальненне эмацыянальна высокіх патрэб, альбо, насуперак нашым намерам, хутчэй звужвае наш кагнітыўны гарызонт, абуджаючы першасныя інстынкты, яшчэ з намі някепска. У рэшце рэшт, інтэрнэт дазваляе выкласці асобныя або групавыя меркаванні, думкі і погляды, дазваляе ім адразу супрацьстаяць і сутыкнуцца з рознымі поглядамі, што даказвае, прынамсі тэарэтычна, што ў ім павінны выкрышталізавацца рацыянальныя, збалансаваныя погляды. Аднак на практыцы ўсё выглядае інакш. І тут цёмны бок інтэрнэту павольна разгортваецца. Цяперашняя прэзентацыя чалавечых рацый і поглядаў, іх незлічонае мноства, атрыманае з розных кагнітыўных крыніц, якія прыводзяць да супярэчлівых высноў, прыводзіць на думку вялікі бурлівы кацёл. Кожны мае права замяшаць у ім апалонікам, кожны можа дадаць у яго свой любімы інгрэдыент. Як вынік, мы зварым своеасаблівую страву — для адных неапетытную баланду, для іншых духмяны бігас! Гэтая нечаканая экстрапаляцыя «вадараў» у інтэрнэце паходзіць з рэальнага жыцця. У рэшце рэшт, у інтэрнэце адлюстроўваецца наша складаная рэальнасць па вызначэнні даступная ўсім і ў поўным спектры чалавечых перажыванняў, поглядаў, тэорый змовы і больш-менш кампетэнтных ведаў. Менавіта таму экстрэмальны падзел тут і там становіцца больш выразным — прыблізна кажучы пра тых, хто больш-менш спрыяе кансерватызму, і тых, хто не баіцца бачання ўмеранага, але ліберальнага прагрэсу. На жаль, усё больш тонкая мяжа перасякае амаль усе грамадствы. Валадары — гэта толькі твары шырокага сацыяльнага фронту. Яму супрацьстаіць даволі ананімны, мяккі і няўзгоднены, але патэнцыйна эквівалентны супрацьлеглы фронт. Кансерватары і лібералы... Кожны мае рацыю, і кожны хоча навязаць сваім апавяданнем уласную гісторыю.

**Міраслаў ГРЫКА**

Сваімі вачыма

# Супраць нашай памяці



Пасля радаснага перыяду ражджэственскіх святаў адразу душамі і памяццю акунаемся мы ў змрочны перыяд злому студзеня і лютага 1946 года, калі ўшаноўваем памяць мірных беларускіх ахвяр варварскіх дзеянняў атраду польскага ўзброенага падполля Рамуальда Райса «Бурага». Учыненыя ім злачынствы над нявіннымі дзецьмі, жанчынамі і мужчынамі, якія павіны быць прычынай сораму і перасцярогі для кожнага народа і грамадства, з году ў год становяцца прыкметай «геразіму і жаўнерскай шляхетнасці»! Проста не хочацца верыць, але менавіта на нашых вачах, дзякуючы дзяржаўна-самаўрадавым установам, у імя «патрыятычных ідэй» адбываецца абсалютнае рэлятывізаванне і адварочванне такіх асноўных чалавечых каштоўнасцей як дабро і зло, геразім — бандытызм, гістарычная праўда ці фальш.

Сённяшняя сітуацыя не бярэцца аднак з пустога. Калі глядзець на тое, як розныя польскія палітычныя сілы і нават ужо міждзяржаўныя структуры разыгрываюць свае інтарэсы над тымі магіламі, робіцца проста страшна і невыносна ў маральным плане.

Але па чарзе. Праз увесь перыяд Польскай Народнай Рэспубліці камуністычныя ўлады не зрабілі анічога, каб сказаць сем'ям дзе парэштці пахаваных вазакоў і ўшанаваць гэтае месца. Не было аніякага зберагання памяці аб загінуўшых асобах і магілах. Пра кампенсацыі сем'ям загінуўшых ахвяр не было нават і гаворкі. Іхнія спадкаемцы ўжо ў дэмакратычнай Польшчы ў гэтай справе на дзяржаўным ці ваяводскім узроўні ў палове дзевяностых гадоў далей не зрабілі абсалютна нічагусенькі. Апрача аднаго — скарыстання гэтай трагедыі для сваіх выбарчых інтарэсаў у мінулым і цяпер. Тады таксама Саюз левых дэмакратаў меў свайго прэзідэнта, прэм'ера, ваяводу і паслоў. Прыгадайма толькі: прэзідэнт Аляксандр Квасьнеўскі, прэм'еры Лешак Мілер, Юзэф Алексы, Уладзімір Цімашэвіч, віцэ-ваявода Ежы Пул'яновіч, паслы Яўген Чыквін, Ян Сычэўскі і Сяргей Плева. Чаму ж тады ім не прыняць рашэння аб выплаце кампенсацый, чаму ж ім, дзяржаўным дзеячам, не з'яўляцца ў кожную гадавіну пры тых нашых акрываўленых помніках і магілах? Звычайна хіба баяліся рэакцыі польскага грамадства і правых палітыкаў — абсалютна незразумелая мне іхняя труслівасць у гэтай справе. Прынамсі хоць так найлепш маглі б падзякаваць свайму беларуска-праваслаўнаму электарату, які галасаваў за іх рукамі і нагамі. А тут наадварот, то менавіта ў часе іх уладарання вайсковым судом быў рэабілітаваны той «герой» усіх няшчасцяў, якім быў менавіта «Буры». І калі бачу і слухаю, што зараз гавораць новыя пераўтварэнні той жа самай групоўкі, проста хочацца толькі прасіць: спадарства, цішэй над гэтымі магіламі!

Другі бок польскай, палітычнай сцэны пасля 1989 года, назавем яго ўмоўна цэнтрысцка-правым, які спасылаўся на дэмакратычныя ідэалы і змаганне з посткамуністамі ў справе беларускіх ахвяр польскага падполля, таксама згодна маўчаў. На працягу звыш трыццаці гадоў гэтыя дзяржаўныя галавары і іхнія прадстаўніцтва ў Падляшскім ваяводстве таксама не пахіліліся над замардаванымі няпольскімі жыхарамі нашай краіны. Пра важнасць і патрэбу такога кроку гадамі пісалася і гаварылася ў беларускім асяроддзі. Затое зараз у імя «гістарычнага дыялогу і дзяржаўнай праўды» маем марш памяці «Бураму» ў Гайнаўцы і аграмадныя муралы з выявай Зыгмунта Шэндзеляжа «Лупашкі» ў Беластоку — другога «выклятага жаўнера», на руках якога кроў літоўскага і беларускага насельніцтва. Іх з'яўленне гэта запатрабаванне і грошы Маршалкоўскай управы, Інстытута нацыянальнай памяці, Падляшскага інстытута культуры. Хто робіць такія рэчы, то няхай сабе ясна ўсвядоміць адказнасць за падаграванне катла міжнацыянальнай варажнечы, што да дабра не вядзе. Калі ўсё гэта акрасім адзінаслушным поглядам агульнапольскіх і рэгіянальных медыяў, то атрымаем соўс, які здалёк ужо смярдзіць і грызе сваім пахам. Найгоршае ў тым, што ён у імя «адукацыі і культуры» проста атручвае нянавісцю душы і розумы штораз малодшых пакаленняў найяснейшай Рэчы Паспалітай.

**Яўген ВАПА**

Настаўнікі роднай мовы

# Мой ідэал настаўніка роднай мовы — Марылька Базылюк-Саснюк



Іаанна МАРКО на Сустрэчах «Зоркі».
Фота Ганны КАНДРАЦЮК

**Іаанна МАРКО** (дзявочае прозвішча Якубовіч) нарадзілася ў Бельску-Падляшскім, дзе закончыла ПШ № 3 і Бельскі белліцэй. Штудзіравала ў Беластоцкім універсітэце, дзе закончыла беларусістыку, русістыку і англістыку. Праз год працавала ў Бабіках на Сакольшчыне, калі там адрадзілася навучанне беларускай мовы. Зараз працуе ў Непублічнай школе свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку. Жыве ў Беластоку.

**— Чаму Вы сталі настаўнікам беларускай мовы?**

— Я заўсёды любіла ўрокі беларускай мовы ў школе і ўжо ў ліцэі ведала, што буду настаўніцай. Мне падабалася, што настаўнік беларускай мовы са сваімі вучнямі можа не толькі працаваць на ўроках, але і запрашаць гасцей, удзельнічаць у беларускіх мерапрыемствах.

**— Хто для Вас ідэал настаўніка роднай мовы?**

— Марылька Базылюк-Саснюк, мая настаўніца беларускай мовы і выхавацелька ў Пачатковай школе. Яе ўрокі былі цудоўныя, яна вучыла нас многіх песень і запрашала на ўрокі цікавых людзей, а таксам вяла ўрокі па вышыўцы.

**— Ці супрацоўнічаеце з настаўнікамі беларускай мовы ў іншых школах? Калі так, назавіце сваіх сяброў.**

— Супрацоўнічаю са спадарыняй Нінай Абрамюк, якая працавала ў Нарве, а цяпер вядзе тэатральныя заняткі ў нашай школе. Разам са спадарыняй Алінай Ваўранюк ездзім на шматлікія конкурсы ў Бельск і Гайнаўку. Пры нагодзе конкурсаў супрацоўнічаю таксама з са спадарыняй Іааннай Васілюк з бельскай «тройкі».

**— Якія арганізацыі і ўстановы, паводле Вас, найбольш дапамагаюць?**

— Вельмі часта карыстаюся матэрыяламі выдадзенымі АБ-БАЙ, на ўроках чытаем «Ніву», асабліва «Зорку».

**— Ці ведзяце ў школе беларускія праекты для сваіх вучняў? Калі так, назавіце іх.**

— Апрача таго, што прымаем удзел у розных конкурсах, штогод арганізуем Дзень роднай мовы і пішам беларускую дыктоўку.

**— Ваш любімы беларускі конкурс?**

— Вельмі люблю ўсе конкурсы, але найбольш задавальнення прыносіць прадметны конкурс па беларускай мове, калі маім вучням удаецца стаць лаўрэатамі.

**— Ці можаце разлічваць на дапамогу бацькоў, асяроддзя?**

— Бацькі вельмі дапамагаюць, асабліва пры падрыхтоўцы да конкурсаў. Дзеці часта астаюцца пасля ўрокаў, або прыязджаюць перад сваімі заняткамі і бацькі вельмі пазітыўна ставяцца да ўсіх нашых дзеянняў.

**— Ці навучанне на прынцыпе добраахвотнасці для Вас складанасць ці, можа, козыр?**

— Гэта для мяне складанасць. Трэба вельмі старацца, рыхтаваць цікавыя заняткі, каб заахвоціць дзіця. Гэта нашмат цяжэйшая праца чым у настаўнікаў іншых прадметаў.

**— Ці можаце зрабіць усё за тры гадзіны ў тыдзень, што раней запланавалі?**

— Вядома, што хацела б рабіць як найбольш у галіне навучання беларускай мове. Апрача трох гадзін у тыдзень вяду яшчэ дадатковыя заняткі, на якіх рыхтуемся да конкурсаў.

**— Ёсць у Вас лаўрэаты прадметнага конкурсу? Калі так, назавіце іх лік.**

— У кожным класе, калі вучні заканчваюць школу, звычайна чатыры лаўрэаты па беларускай мове. Так што іх ужо многа.

**— Ці, паводле Вас, падручнікі па беларускай мове дапасаваныя да сучаснасці?**

— Падручнікі, якія былі раней, вядома, ужо не вельмі дапасаваныя да сучаснасці, але цешуся, што выдаюцца новыя. Нашмат лепшыя, каляровыя і дзеці ахвотна імі карыстаюцца.

**— Ваш любімы падручнік па беларускай мове?**

— Вельмі люблю працаваць з кніжкамі для малодшых дзяцей, таксама карыстаюся матэрыяламі знойдзенымі ў інтэрнэце.

**— Хто Ваш любімы беларускі аўтар?**

— Чытаю кніжкі розных аўтараў, і з Беласточчыны, і з Беларусі. Апошнім часам захапляюся творчасцю Віктара Марціновіча.

**— Якую беларускую кніжку Вы актуальна чытаеце?**

— Цяпер чытаю «Птушкі і гнёзды» Ларысы Геніюш. Гэтую кніжку я чытала ў час вучобы ва ўніверсітэце, а цяпер вырашыла да яе вярнуцца.

**— Ці прывіваеце цікавасць да беларускай прэсы?**

— Кожны тыдзень чытаю «Ніву», вельмі часта заглядаю на сайты беларускіх газет і радыё.

**— Якое, паводле Вас, самае цікавае беларускае мерапрыемства?**

— Вельмі люблю «Бардаўскую восень».

**— Ці размаўляеце са сваімі вучнямі па-беларуску па-за ўрокамі, школай?**

— З некаторымі заўсёды, з іншымі менш.

**— Ці маеце прыкрыя ўспаміны ў сувязі са сваёй прафесіяй?**

— Праца настаўніка гэта праца з людзьмі і, вядома, бываюць розныя сітуацыі, але не памятаю нейкай асабліва прыкрай.

**— Што Вас палохае, наклікае стому?**

— Недахоп часу. Заўсёды хочацца зрабіць больш, але аказваецца — няма калі.

**— Ці сярод Вашых вучняў ёсць вядомыя выпускнікі?**

— Мае найстарэйшыя вучні на першым курсе ўніверсітэтаў і вышэйшых навучальных устаноў, так што веру ў іх будучыню.

**— Ці атрымалі Вы ўзнагароды за сваю працу (грашовыя, ганаровыя)?**

— ...

**— Што Вам дае сілу, натхненне?**

— Сілу дае мне мая сям'я, а вучні натхняюць да далейшага дзеяння.

**— Самы цудоўны ўспамін настаўніка беларускай мовы?**

— Ёсць так многа цудоўных успамінаў, іх проста цяжка злічыць.

**— Які нацыянальны сімвал упрыгожвае Ваш клас?**

— Герб Пагоня.

**— Як бачыце будучыню беларусаў?**

— Маю надзею, што маладыя людзі будуць шанаваць традыцыі і мову сваіх продкаў. Што не будуць саромецца свайго паходжання.

Апытальнік правяла
Ганна КАНДРАЦЮК

# У абароне габрэяў

**У Цэнтры трох культур адкрылася выстаўка прысвечаная тым, якія ратавалі яўрэяў у час Другой сусветнай вайны. Сярод іх знаходзіцца Адольф Кішла з Яцвезі, які выратаваў Сымху Лазара — жыхара Сухаволі, уцекача з гродзенскага гета. „Справядлівы сярод народаў свету” — гэта самае буйное ізраільскае вылучэнне, якое ўручаецца людзям, якія, рызыкуючы жыццём, ратавалі габрэяў ад Халакосту. Магчыма такое званне атрымае Адольф Кішла. Гэта была б першая асоба з такім тытулам не толькі ў гміне Сухаволя, але і ў суседніх.**









■ Памятны камень у Трэблінцы (фота А. Вярбіцкага)

„Рызыкуючы сваім жыццём — палякі, якія ратавалі габрэяў падчас Халакосту” — пад такім загалоўкам у нядзелю 9 лютага 2020 года прайшла сустрэча ў Сухаволі. Пад такім жа загалоўкам тут можна аглядаць выстаўку, падрыхтаваную Музеем гісторыі польскіх яўрэяў POLIN сумесна з Міністэрствам замежных спраў. На выставе прадстаўлены гісторыі людзей, якія дапамаглі яўрэям падчас Другой сусветнай вайны. У акупаванай немцамі Польшчы, у адрозненне ад Заходу Еўропы, за дапамогу яўрэям пагражала смерць. З выстаўкі можна пазнаць лёсы ратуючых і выратаваных. Пасля вайны некаторыя з іх былі ўшанаваны дзяржавай Ізраіль тытулам „Справядлівых сярод народаў свету”. Такое званне магчыма атрымае таксама Адольф Кішла.

— Амаль год таму ў сакавіку я атрымаў ад Марыі Сэчэнь з Інстытута Яд-Вашэм, якая займаецца тытуламі „Праведнікаў народаў свету”, інфармацыю па электроннай пошце аб тым, што справа была перададзена камісіі, якая прысуджае гэтыя званні, — адзначыў Генрык Кошчук, ініцыятар прысваення Адольфу Кішлу звання „Справядлівы сярод народаў свету”. — Я ўпэўнены, што такіх людзей у нашай гміне было больш. Магчыма, што гэтае вылучэнне таксама стане штуршком да таго, каб і іншыя адкрылі гісторыі сваіх адважных продкаў, якія ратавалі габрэяў.

У 1943 годзе Адольф Кішла хаваў трох габрэяў на гарышчы сваёй стадолы, у тым ліку Сымху Лазара з Сухаволі, які дачакаў канца вайны ў Адольфа Кішлы. Потым эміграваў у ЗША. Сям’я Кішлаў падтрымлівала сувязь з ім шмат гадоў. Нашчадкі Адольфа Кішлы ўзрасталі з гісторыяй тых, якія ў гміне Сухаволя ўжо не засталіся.

— Мая маці вельмі часта ўзгадвала яўрэяў, якія хаваліся ў нашай стадоле, — гаворыць унучка Адольфа Кішлы, Вяслава Мароз. — Найчасцей гаварыла аб гэтым у час Каляд. Яны рабілі гэта бескарысна і нікoлі не чакалі ніводнай узнагароды. Бацькі часта падкрэслівалі, што ў тым часе кожны так павінен быў паступіць.

Сымха Лазар у 1947 годзе ў Мексіцы спісаў успаміны пра ўцечку з Гародні і хаванне ў Яцвезі. Зыгмунт Элтан пераклаў іх з ідыш на англійскую мову, а на польскую — Яцэк Кільяньскі. Трагічная гісторыя сухавольскіх габрэяў пачынаецца ў канцы чэрвеня 1941 года, калі ў Сухаволі з’яўляюцца атрады гестапа. Тады адбываецца, — як называе Сымха Лазар, — „першы пагром”. З ягоных успамінаў можам даведацца, што каля 120 чалавек было пабітых і патопленых у рацэ пры млыне. У доме вартаўніка кіркута зачынілі Лейба Францкоўскага, а потым падпалілі хату. Варта падкрэсліць, што, згодна з апісаннем Сымхі Лазара, гэтыя злачынствы былі здзейснены пры ўдзеле фашыстаў і мясцовых палякаў. 19 ліпеня 1941 года памёр Іссак Шкляр, які быў адным з некалькіх працоўных хлопчыкаў на школьным двары пад пільнымі вачыма немцаў. Немцы пераследавалі маладых хлопцаў. Іссак уцёк пасля таго, як быў жорстка збіты фашыстамі. Немцы пагразілі, што калі яго маці — Шклярова — не выдасць сына, яны заб’юць усіх астатніх. Яна аддала з адчаем Іссака ў рукі нацыстаў. Хлопчыка адразу застрэлілі. Таксама ў ліпені таго ж года 80 габрэйскіх дзяцей было вымушаных парадыяваць пахаванне Іосіфа Сталіна. У час гэтага фашысты білі дзяцей і здзекаваліся над імі. Павялі іх да ракі, дзе хацелі ўсіх утапіць, але яўрэі падкупілі фашыстаў. Толькі дзякуючы таму дзеці засталіся ў жывых.

У лютым 1942 г. была разбурана драўляная сінагога і дом навучання. Цагляная сінагога ператвараецца ў збожжасховішча, ствараецца гета, якое першапачаткова было размешчана побач сённяшняй вуліцы Купецкай. Потым гета перанеслі на вуліцу Касцельную — сённяшняя Свентакшыска. Вакол гета вырастае агароджа з калючага дроту. Пасля дзевяці месяцаў габрэяў з сухавольскага гета (знаходзіліся ў ім не толькі габрэі з Сухаволі, але і Карыціна, Дубровы-Беластоцкай і Новага Двара), перавозяць у лагер у Калбасіне, што пад Гародняй. Транспарт адбыўся пры дапамозе людзей з навакольных вёсак, якія павінны былі з’явіцца з фурманкамі па выкліку нямецкай адміністрацыі.

Сымха Лазар і Мойша Тыкцін у лютым 1943 года вырашаюць выратавацца з гродзенскага гета. Уцякаюць праз акно ў стайні. Перайшоўшы 55 кіламетраў, шукаюць дапамогі ў роднай Сухаволі, дзе некалькі гаспадароў дало ім ежу, але не дазволілі застацца на ноч ад страху перад немцамі. Сымха і Мойша ідуць далей — да Яцвезі. Пасля некалькіх спроб прытулак знайшлі ў стадоле Адольфа Кішлы. „Nowy „obrońca” był stolarzem i mieszkał z żoną, Hanką, córką Manią i synkiem Heńkiem, który miał koło sześciu lat. Adolf Kiszło — 48-letni mężczyzna z przyjaznym uśmiechem na twarzy był bardzo biedny. Nie stać go było nawet na zapłacenie podatków. Jego gospodarstwo składało się z małego poletka o powierzchni 4 hektarów, małego słabowitego konia, krowy, cielaka, kilku kur i paru prosiąt. W środku lodowatej nocy Adolf Kiszło przeprowadził nas z kopca do kamiennej piwnicy znajdującej się pod jego domem. Pierwszej nocy nie zmrużyliśmy oka z zimna i strachu, że zauważył nas któryś z sąsiadów. Spędziliśmy dwie noce w piwnicy, a potem przenieśliśmy się do jednej ze stodół należących do Kiszły. Na ruszcie stodoły zrobiliśmy sobie coś w rodzaju mieszkania 2 metry długiego i 1.5 metra szerokiego. Chłop przynosił nam jedzenie raz na dobę, zawsze o tej samej porze, kiedy karmił świnie i konie. Musiał bardzo uważać, by nie wzbudzić podejrzeń wśród sąsiadów. (...) Miałem przed oczami moje dziecko i jego matkę, wydawało mi się, że wyciągają do mnie ręce z pieców Auschwitz. Moje serce wypełniał straszny żal. Trudno, bardzo trudno opisać wszystkie te uczucia i myśli. Nie zrozumie ich nikt poza tymi, którzy przeszli te samą drogę i przeżyli”. (*„Khurbn Sukhovolye, lezikaron fun a yiddish shtetl tsvishn Bialystok und Grodn”, wyd. w Meksyku w 1947 roku pod redakcją S. Zabłudowskiego, przekład z jidysz na angielski — Zygmunt Elton, z angielskiego na polski — Jacek Kiljański*).

Тэкст і фота
**Уршулі ШУБЗДЫ**



# Няма сэнсу баяцца таго, што неабходнае, праз што прайшлі нашы продкі...

**Ганна Кандрацюк: — Міша, пражыў Ты 60 гадоў і, пэўна, не прыкмеціў гэтых гадоў? Ці думаеш пра сябе і свой спелы ўзрост? Нешта змянілася?**

**Міхась Андрасюк:** — Ага, добрае пытанне. Ці штосьці змянілася? Не, часам адкідваю гэты «нуль» і адчуваю сябе шасцігадовым хлопчыкам. Хаця гэта не натуральна, але так яно бывае, што чалавек на некалькі хвілін зноў становіцца дзіцёнкам. А калісьці мне ўяўлялася што 50-60 гадоў гэта такі ўзрост, проста такая глыбокая старасць. Памятаю як у 17-18-гадовым узросце пойдзем на танцы, а там заблытаецца нейкі чалавек у 25, а мы глядзім на яго, і кажам: *на х...р тут гэты старык!* Як бы ўсё залежыць, з якога пункту бачання глядзім на самога сябе. Усё суб'ектыўнае. 60 гадоў! Калісьці сказаў бы я: людзі так доўга не жывуць! Але я жыву!

**ГК: — У гэты момант гаворыш як Сакрат Яновіч.**

**МА:** — Я памятаю гэтае сакратавае (*смяецца*): *«Людзі так доўга не жывуць»!*

**ГК: — Я б сказала, Ты якраз у творчым разгары. У новай кнізе, над якой актуальна працуеш, Ты прыкмеціў як мяняецца свет, як коціцца ў наш бок небяспека. Пра што канкрэтна будзе «Рускі квадрат»?**

**МА:** — Нашу гэта ў сабе ўжо з дзесяць гадоў. Лукашэнка сказаў, што ягоны бацька загінуў на гэтай праклятай вайне. То я зразумеў, што яго маці была 9 або 10 гадоў цяжарнай. Ну і нарадзіла такога. Я думаю, што калі дзесяць гадоў буду насіць у сабе «Рускі квадрат», таксама атрымаецца важкая кніжка. Ну, так сабе жартую. Сур'ёзна? Хочацца мне напісаць кніжку пра зло. Як яно нараджаецца, як узнікае на пустым полі, цалкам без прычыны. І пра тое павінен быць «Рускі квадрат».

**ГК: — Зло — бязмежная, важкая тэма. І надта прыклееная да лёсу беларусаў.**

**МА:** — Я думаю пра зло, якое нараджаецца між людзьмі, якія былі сям'ёй, добрымі сябрамі, добрымі суседзямі. Зло, якое нараджаецца з канфесійных, нацыянальных адрозненняў. Часам думаю пра Гайнаўку, што ў «спрыяльных» умовах як яна можа стаць такой нашай падляшскай Срэбраніцай. І ці ўвогуле можа стаць? Маю ўражанне, што ўсё-такі можа.

**ГК: — Гэта ўнутранае прадчуванне ці аналіз сучасных падзей?**

**МА:** — Няма ўва мне страху, мне ж 60! І я няшмат чаго баюся. І нават гэтая *вечная памяць*, якую спяваюць над магілай, не такая ўжо страшная. Гайнаўка мяне хвалюе, трывожыць. Гэта мая тэрыторыя, мой горад, маё месца. І будучыня гэтага месца не цалкам для мяне абыякавая.

**ГК: — Адкуль тое зло?**

**МА:** — Ведаеш, маё пакаленне гэта тое пакаленне, якое першае дажывае да старасці без вайны. Гэта ж не натуральна...

**ГК: — Думаеш пра вайну як гістарычны рэсет, які прыходзіць сам па сабе?**

**МА:** — Праблема ў тым, што зло незалежнае ад аднаго чалавека. Яно звальваецца на нас як валун. Не ведаем чаму, не ведаем адкуль, не ведаем як ад яго абараняцца. Вось гэта такі феномен гісторыі чалавецтва. Раптам з нічога ўзнікае пажар, знішчае ўсё. Ведаеш, часам гляджу на штогадовыя маршы выклятых жаўнераў у Гайнаўцы. І там нібыта добрыя людзі, добрыя суседзі, добрыя знаёмыя — яны становяцца па два бакі барыкады.

**ГК: — Дзе і чаму гэтая барыкада ўзводзіцца?**

МА: — Ніхто не ведае чаму, навошта, з якой мэтай? Можа хтосьці ведае, але абсалютна не тыя людзі, што крочаць у гэтым маршы, або супраць яго. Гэта такая фізічная выява таго, што можа нас чакаць у будучыні. З чаго вырасце нейкая кашмарная гідра...

**ГК: — Можа расце ўжо яна?..**

**МА:** — Проста, людзі не разумеюць, што вось яны сваімі рукамі заводзяць мур. І гэта быццам выява нейкага патрыятызму. Што гэта быццам сямейныя традыцыі і чаго там яшчэ... А ў прынцыпе за тым стаіць звычайнае зло. Зло, якое не мае ні твару, ні нацыянальнасці, ні канфесіі. Яно проста — зло! Такая брытва, у якой два бакі і лязо, якое калечыць і забівае. Гэтая брытва ўжо вісіць над намі. Цікава, калі ў Гайнаўцы пачнуць разборкі кшталту балканскага... Гэта ўсё рэальна.

**ГК: — Для пісьменніка гэта цяжкі эмацыянальны выклік?**

**МА:** — Для пісьменніка, калі казаць цынічна, гэта добры выклік! Гэта дае шматструктурную перспектыву. Тут ёсць што сказаць, ёсць пра што пісаць. Бо пра што нам асталося яшчэ пісаць? Пра тое, што лес пасадзілі і што вавёркі бегаюць...

**ГК: — Вось так завандравалі мы з табой Міша...**

**МА:** — У цёмны лес...

**ГК: — Я, аднак, пад уражаннем таго выкліку, пра які гаворыш і адначасова палохаеш? Сучасны чалавек не хоча слухаць пра жахі і «цёмны лес»? Гэта твая спеласць і разуменне грамадскіх з'яў. Ці матывуе Цябе апошні поспех — прэстыжная Прэмія Гедройца?**

**МА:** — Прэмія Гедройца нічога ў маім жыцці не змяніла, ідзе яно як ішло. Калі дзесьці там хтось мяне прачытаў і сказаў: о гэта *о'кей*, — гэта добра. Тым не менш, у маім прыватным жыцці нічога гэтая прэмія не мяняе. Да літаратурных прэмій стаўлюся з насцярожанасцю. Журы гэта таксама людзі. І як то кажуць: *Камусьці падабаецца бацюшка, камусьці матушка, а камусьці іх дачка.* Ну, а «Рускі квадрат», ведаеш... У маладосці шмат гадоў я займаўся такім бізнесам, рабіў помнікі па пакойніках. І ў гэтай кніжцы хачу вярнуцца на такую экстэрытoрыю, на могілкі. Гэта анклаў, які ў кожным горадзе жыве па сваіх законах.

**ГК: — Жыццё павярнулася на кругі свае?**

**МА:** — Калі табе 60 гадоў, усё больш у цябе смерці і думак, што наперадзе сцяна. Яна можа яшчэ далёка, але ты ўжо яе там бачыш, прадчуваеш, што яна там ёсць. У маладосці смерць нічога не важыць. А ў 60, калі яна таксама яшчэ нічога не важыць, то прынамсі ўсведамляе, што яна існуе і што яна за парогам. Няма сэнсу баяцца таго, што неабходнае, праз што прайшлі нашы продкі...

**ГК: — Ну, быццам зноў праз Цябе Сакрат Яновіч прамовіў! Таму спадзяюся, што Твой «Рускі квадрат» прамовіць і агаломшыць як камень.**

**МА:** — Давай, гэта ўжо спынім...

**ГК: — Тады віншую Цябе, Міша, з прыгожым юбілеем!**

**МА:** — *(смяецца)*

❖Тэкст і фота **Ганны КАНДРАЦЮК**
*Размова праведзена ў час семінара «Бязмежжа» у снежні 2019 г. на якім адбыўся юбілей 60-годдзя Міхася Андрасюка.*

## ПА СЛЯДАХ ПАМЯЦІ...
### (кніга, народжаная сэрцам)

Маё знаёмства з Міхасём Андрасюком адбылося ў 2000 годзе дзякуючы зборніку прозы „Фірма". Прачытаўшы кнігу, адразу пранікласе сімпатыяй да аўтара. Найперш за манеру пісьма: ёмка, з добрай доляй гумару, праўдзіва і чалавечна. Адзначыла для сябе, што пісьменнік далёкі ад жадання быць падобным да некага. У гэтым упэўнілася, чытаючы і наступныя кнігі („Мясцовая гравітацыя" і „Белы конь").

Выдадзеную ў 2019 годзе „Поўню" прачытала таксама на адным дыханні. Склалася ўражанне, што, працуючы над гэтай споведдзю, пісьменнік ствараў аднaчасова дзве кнігі. Адна — аповед пра далёкую мінуўшчыну, другая — апісанне сённяшняга жыцця.

Памяць аб перажытым, аб продках, іх сялянская навука зрабілі для аўтара ўсё перажытае цікавым і значным. Памятныя для вясковага хлапчука падзеі сталі сапраўднай школай жыцця. Тое глыбіннае, што з даўніх часоў адкладвалася ў памяці, збіраючыся па кроплях, знайшло сваё месца на старонках кнігі. Міжволі ствараецца ўражанне, што карцінкі мінулага не пакідаюць пісьменніка ўсё жыццё, таму так шчыра і захоплена ён расказаў аб гэтым свайму чытачу. І я веру ў праўдзівасць напісанага, у харaство прастаты, з такой любоўю і замілаваннем апісанай на старонках „Поўні".

Склалася ўражанне, што пісьменніку вельмі дарагія рэчы і людзі, з якімі ён жыў (і жыве сёння), а таксама падзеі, удзельнікам якіх з'яўляўся. І гэта зразумела, бо ўсё перажытае і ёсць тое, што стала самай дарагой часткай яго біяграфіі.

Вёска Войнаўка, малая радзіма Міхася, і ёсць самая галоўная і непазбыўная памяць пісьменніка аб людзях, аб прыродзе, аб галасах...

Зямля і людзі — гэта заўсёды кліча да сябе, бо жыве ў чалавеку навечна. Вось і наш герой, пакідаючы некалі вёску, напэўна, думаў, што ад'язджае адсюль назаўсёды, забіраючы ў думках з сабой сваё мінулае. Наперадзе было столькі новага, захапляючага, важнага і цікавага.

Прайшлі дзесяцігоддзі, і больш важным для творчасці аказалася непарыўная сыноўняя сувязь з усім, што засталося, здавалася, назаўсёды ў мінулым. З карцінамі прыпушчанскай вёскі ўзнавіліся і ўспаміны аб людзях, што здавен|насялялі яе.

Падаецца мне, што спадар Міхась не мог не падзяліцца з чытачамі гэтым, знаёмячы нас са сваімі землякамі. Правільна і вельмі ёмка адзначыў некалі Іван Мележ, што „ў літаратуры маюць значэнне толькі свае дарогі".

Міхась Андрасюк упэўнена ідзе сваёй сцяжынай, займаючы на працягу двух дзесяцігоддзяў пачэснае месца ў літаратурнай будынiне Беласточчыны.

Шчыры дзякуй табе, дарагі мой чалавек, за светлае пачуццё радасці, што адчувала, чытаючы кнігу, за адкрытасць душы, за талент, за вернасць роднаму краю і за такія цёплыя словы, прэзентуючы мне свае кнігі: „Тамары Лаўранчук, суседцы з-за мяжы, добрай жанчыне, бо ў Наталлі не можа быць дрэнная мама".

Дзякуй табе, Міхась, за гадзіны, праведзеныя побач з тваімі героямі, далёкімі і блізкімі. Дзякуй за асалоду твайго слова, у якой купаюся кожны раз: „Я набраў у рот глыток сталічнай раніцы", „кубачкам моцнай кавы адбіваўца ад соннасці і стомы", „раніца, штурханутая сонцам", „выструньваюся перад бабуляй" і г.д.

Кожны раз па дарозе ў Гайнаўку прагну звярнуць з шашы на Войнаўку, каб увачавідкі ўбачыць вёску, дзе правёў дзяцінства і маладосць таленавіты і сардэчны чалавек. А мо пашчасціць сустрэцца ў дзедавай хаце?

Жыві доўга і надалей радуй чытачоў сваім талентам.

**Тамара ЛАЎРАНЧУК,**
г. Высокае



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Дзявочая (не)наіўнасць па-падляшску!


Дамініка Пуц у манадраме «Падстрыжыны»
Фота Кшыштаф Матус

З цікавасцю і спадзяваннем я паглядзела «Падстрыжыны» з Дамінікай Пуц у галоўнай і асноўнай ролі і падумала: ступае яна ў сляды сваёй ментаркі і рэжысёркі Іаанны Троц. Параўнанне наклікаў успамін дэбютанцкага спектакля Іаанны Троц «Яй ў полі вэрбою росла». Гэта быў арыгінальны і адважны крок — найперш таму, што манадрама ішла на падляшскай мове і гэта быў першы такога роду прафесійны выступ на Беласточчыне.

Для Дамінікі Пуц, якую ведаю з конкурсаў «Роднае слова», спадабаўся падобны выклік. Не без значэння тут увага і знакаміты пераклад Яна Максімюка, які ў гэты раз прапанаваў на падляшскую мову твор сучаснага чэшскага класіка Багуміла Грабала. Менавіта пытанні, якія ставіць гераіня «Падстрыжынаў» — гэта ментальнае люстра сучаснай дзяўчыны, якая адкрывае ў сябе прывілеі і козыры прыгожага полу. У яе здагадках шмат дзіцячай пяшчоты, нявіннасці, але адначасова, крытычныя і колкія заўвагі наконт жаноча-мужчынскіх адносін і старых, грамадскіх роляў. Дамініка Пуц стварае дыстанцыю паміж уяўнымі вобразамі, а дапамагае ёй у гэтым прыродная інтэлігентнасць і прыгожасць.

Спектакль зноў сыграюць 16 лютага ў Музеі і асяродку беларускай культуры ў Гайнаўцы. Тыя, хто марыць пра сцэну і выступленні, могуць паглядзець (нават чарговы раз) гэтую незвычайную прапанову. Адзначым, манадрама «Падстрыжыны» атрымала першую ўзнагароду на Агульнапольскім дэкламатарскім конкурсе ў Беластоку за 2019 год у катэгорыі найлепшай манадрамы Падляшскага ваяводства.

Рэжысёрам пастаноўкі, як не цяжка здагадацца, з'яўляецца нястомная Іаанна Троц.

**(гак)**



*Анця Х.*

* * *

*Ці гэта каханне?*
*Не ведаю, прабач*
*Сёння кожнаму з нас*
*іншай дарогай ісці*
*прыйшоў час.*
*І зусім не прыходзіць*
*гэта мне лёгка.*
*Думаю, марыць буду*
*яшчэ доўга.*
*Ты забудзь!*
*Я не забуду і ўсё тое*
*добра ўспамінаць буду...*

***PS.*** *Нядаўна мы зноў атрымалі верш таямнічай ліцэісткі Анці, якая чутка і мудра апісала раздоры вядомага ўсім пачуцця, якое захапляе, цісне і адначасова застаўляе парваць адносіны, аднак лагодна і рамантычна, так, каб не забіць канчаткова пачуцця і зберагчы яго па добрым баку памяці. Пішы нам, прыемна такое чытаць.*

## УВАГА КОНКУРС!
## № 07-20

**Глянь праз акно — угары сіняе палатно. Н...**

**Загадкі з роднай хаткі**

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку" да 29 лютага 2020 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на загадку № 3-2020: мароз. Узнагароды, каляровыя алоўкі, выйгралі Антаніна Варанчук з Арэшкава, Мая Тапалянская з Нарвы. Віншуем!**

Размалюйце!

# Міфы старажытных беларусаў

Неба — яно ўяўлялася нашым продкам як вяршыня вялізнай гары, на якой сядзелі багі, святыя і душы памерлых. Там жа сваё месца мелі агонь, вільгаць, зоркі. Неба лічылі домам Сусвету, а дакладней — домам са сценамі і дахам, для якога зямля была падлогай. На Магілёўшчыне гэтую гару — неба, уяўлялі ў выглядзе ледзянога шару, які канцамі апіраўся на мора. На небе, на думку магілёўцаў, жыў Бог, які запісваў усе добрыя і дрэнныя ўчынкі людзей, каб пасля разбірацца на страшным судзе. Беларусы Падзвіння мелі асобную назву для той часткі неба, дзе жыў адзін Бог — гэта Багонь.

Паводле старажытных міфаў, нашы продкі лічылі зямлю і неба шлюбнай парай. Неба, як мужчынская пладатворная сіла палівала Зямлю-жанчыну сваімі промнямі і дажджом.

На Случчынне лічылі, што неба складаецца з сямі паверхаў. Людзі бачылі адно першы паверх. Яны верылі, што спачатку людзі вольна ўзыходзяць на ўсе нябёсы, а калі саграшылі, то Бог, гневаючыся, аддзяліў неба ад зямлі, закрыўшы між імі дарогу.

Старажытныя беларусы характарызавалі неба як святое, велічнае і недасяжнае. Святасць і боскасць неба пераносілі і на нябесныя свяцілы ды на атмасферныя з’явы.

Да неба звярталіся народныя лекары падчас прамаўлення замоў над хворым, каб вышэйшыя сілы сышлі з нябёсаў на зямлю і дапамаглі ім пазбавіцца ад немачы.

На Падляшшы самымі блізкімі да неба лічаць узгоркі, узвышшы. На іх ставяць цэрквы, манастыры і закладаюць могілкі. Наш прыпушчанскі народ лічыць блізкімі небу вершаліны магутных дрэў, пра якія кажуць: Там растуць дубы, што з небам гавораць!

(Адрэзак адрэдагаваны на аснове кніжкі Алены Коршак «Беларуская міфалогія для дзяцей»)

**(гак)**

Стары Дзік

## Сямейныя гукі

Знаёмыя гукі,  
сугучныя словы —  
сямейную карцінку  
напісаць Ты гатовы.  
Дзед Раман  
ваенны чытае раман,  
бабуля Паўліна  
новы ставіць пасьянс.  
Котка Мурка  
мурлыкае з-за пазуркаў,  
сабака Гаўка  
звычайна любіць дзяўкаць.  
Тата Антон  
павіс носам у айфон,  
мама Ганна  
беласпевіць усім зрання.  
Брат Пятрусь,  
сястрычка Анна  
дзяруць горла  
зусім дарма.  
Так ім усё  
не даспадобы,  
што бяруцца  
лічыць зубы.  
У такой жа атмасферы  
люблю лезці я на дзверы,  
бразнуць імі так умею,  
што ўсе ледзь не самлеюць.

## Польска-беларуская крыжаванка № 07-20

Swojak, Ogon, Skiba, Keczup, Arbuz, Jamka, Brzuch, Kaktus, Zamek, Jawa, Zima, Mat, Azja, Snieg, Pył, Bas, Zabawa, Bar, Klub, Supeł, Atak, Rękaw

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 3-2020:**

Лыжка, вышка, мода, павук, лік, папараць, ха, ні, аладкі. Луг, пахі, лапа, мурал, вока, жыд, цуд, шаль, казкі.

Узнагароды, наклейкі, выйгралі **Аліўка Порац, Сара Дэрпенская, Мая Тапалянская** з Нарвы, **Ніколь Басалай, Матэвуш Адамовіч** з Нараўкі, **Кацярына Сурэль, Габрыела Красько** з Арэшкава. Віншуем!

# Пасадзіла Вера 2500 дрэў

**Тут, у Малінніках, нарадзіўся яе, Верын, дзед Андрэй Калішук. Як успамінаў у «Бежанстве 1915 года», яго бацька гаспадарыў на пасажнай «чацвяртусе» (3 га) дзядулі. Сам да таго дакупіў тры дзесяціны і частку, што склала яму 8 гектараў зямлі. Вёска ў той час 67 каміноў налічвала. Выгнаныя вяскоўцы едучы ў бежанства пакінулі свіней і авечак у Вілюках, селі на фурманкі і праз ваенны агонь адправіліся ў Расію. У Маліннікі вярнуліся ў 1921 годзе, пасля шасцігадовага бадзяння. Усё было знішчана і разграблена. З бежанства не вярнуліся дзядуля і малодшая сястра Аляксандра — там памерлі.**

Атрымала Вера Калішук у спадчыну кавалак дзедавага поля, пасля перапісала яго на сына, інжынера. Выхоўвала сына адна, справядлівая і радыкальная, як яе дзед. Ейны сын Павел, новы ўласнік участка, пасля працы ў карпарацыях, дзе ягоную работу прысабечыла кіраўніцтва, плюнуў на ўсё і заняўся перакладамі, здабыўшы рэнамэ як адзін з лепшых перакладчыкаў з англійскай мовы. А на полі, на ўчастку № 323, паміж Малінікамі і Рыгораўцамі, пры палявой пяціметровай шырыні даязной дарозе на палетку, Вера пасадзіла 2500 дрэў — тысячу дубоў, тысячу ялін і пяцьсот бяроз наўкола. Спачатку даведаўшыся ў дэпартаменце аховы навакольнага асяроддзя, ці патрэбны нейкі дазвол на аблясенне ўласнага ўчастка. Не быў неабходны такі дазвол ад якой-небудзь установы, скажам, гміннай. На ўсялякі выпадак спадчынніца-чыноўніца (тады працавала ў фінансах горада Беластока), 23 чэрвеня 2011 года паведаміла войта Арлянскай гміны, што на ўчастак № 323, распаложаны на грунтах вёскі Рыгораўцы, з нагоды Дня Зямлі купіла і пасадзіла дзве з паловай тысячы дрэўцаў росту чалавека, папрасіўшы, каб гэты ўчастак перакваліфікаваць у эвідэнцыі. Другі ўчастак дастаўся яе братанку Лявону, які ўвесь час жыве ў Малінніках. Лявон таксама пасадзіў дрэвы. Лявон са свае хаты ў Малінніках можа акінуць вокам свае і цётчыны палеткі, на якіх ужо выраслі васьмігадовыя дрэвы — найхутчэй пагналіся ўверх бярозкі. І аднойчы, у лістападзе 2019 года паінфармаваў цётку, што на яе ўчастак уехалі цяжкія машыны і валяць-карчуюць першы рад дрэў. Пашыраюць дарогу ў поле. А тут дарогу, што вядзе да нованабытай гаспадаркі аднаго вяскоўца, зарослую муравой і зеллем, увогуле зааралі — прыехаў гмінны цяжкі «спшэнт», што стаіць правам кадука на пустым падворку адышоўшага ў лягчэйшы свет жыхара Арлянскай гміны; праехаўся па пяціметровай палявой дарозе, вывернуў гліну, што ўвогуле не даедзеш на палеткі па абодвух баках дарогі, і да лесу, які «тут быў заўжды», куды рыгораўцы і малліннікі хадзілі па грыбы і ягады. А ў Верын лес, падрослы і дужы, што ўжо абрадзіў у грыбы, і жыхары вёсак тут зачасцілі і знайшлі свае грыбныя месцы.





... Пазваніў Веры Лёнька Калішук:

— Цётка, прыходзіў да мяне радны Дарак В., і сказаў, што ліквідуе ў цябе радок дрэў (пасаджаны яны паміж радамі ў тры метры). І ў мяне таксама, з другога боку дарогі. Значыць, з аднаго боку — упадзе 120 штук.

Вера пайшла да юрыста: Як можна камусьці адарваць кавалак грунту і выразаць 120 дрэў. Юрыст кажа — нельга. Калі гэта «вышэйшая неабходнасць» і гміна будзе пашыраць дарогу, дык Гмінная рада павінна выдаць рашэнне, і яго павінен атрымаць уласнік участка, і павінен ён атрымаць за гэтую маёмасць кампенсацыю. А не можа сабе так прыйсці радны і сказаць: я табе вось гэта ліквідую, як установа. А тут было б — паўтара метра да раду дрэў, яшчэ паўметра ад дарогі, памножыць гэта на 180 метраў даўжыні ўчастка — добры кавалак. Пасля паведамлення Лявона Вера пазваніла раднаму. «У чым справа?» — «Пашыраем дарогу». — «Юрыст сказаў, што не можаце гэта от так сабе зрабіць, не паведаміўшы мяне. Рада павінна выдаць рашэнне». — «А ты забрала два і паўметра дарогі! Дарога мела пяць метраў, а цяпер мае два з паловай!» Я ведаю, што я адступіла ад дарогі на паўметра, не нарушыла яе. Ну, калі ён пляце такое, дык рашыла я паехаць у вёску, пералічыць тыя метры. Перамерала я дзедаў участак — паверхня правільная, я яго не павялічыла. Змерала дарогу — мае пяць метраў. Сходжу з поля. Стаіць Дарак з трактарам, чакае мяне. «Ну і колькі тае дарогі?» — пытаецца. «Пяць метраў». Не люблю «пыскаваць». Дарак кажа: «А, бо іначай бачыцца, калі гаворыш па тэлефоне, а калі, вось, асабіста». Ужо пра тыя два з паловай метра і гаворкі няма. Было гэта ў чэрвені, а ў лістападзе Лявон звоніць: «Цётка, пусцілі цяжкія машыны, і вывернулі на тваім участку першыя пяць бяроз». Паехалі мы ў Маліннікі, сын (ад 2015 года ён уласнік лесу) зрабіў здымак вырваных з каранямі дрэў і заявіў у паліцыю, перадаўшы туды кружэлку са здымкамі.

— Пыталася я раней у юрыста, што мне рабіць, калі яны пачнуць тыя дрэвы карчаваць. «Званіце ў паліцыю». Пазваніла я ў Орлю спачатку ў аддзел аховы асяроддзя: рэжуць мой лес, які я пасадзіла дзеля павагі для прыроды і экалогіі, нават не паведаміўшы гаспадара. Юрыст сказаў мне, каб паведамляць у паліцыю, але не хацела дапускаць да такой сітуацыі, каб я мела такім спосабам спрачацца з маёй роднай гмінай. Лепш было б, калі б хтось паразмаўляў з радным, каб гэтага пазбегчы.

— Заўтра сарыентуюся і вам пазваню.

— Не, я пазваню вам, калі вярнуся ад лекара.

Пазваніла я 6 лістапада. «Пазваніце, пані Калішук, войту, войт вам усё растлумачыць.

— Ma pani zezwolenie na zalesienie? — пытаецца Лявон Паўлючук.

— Не, але я званіла раней і мне сказалі, што яно непатрэбнае. Усё ж я паведаміла гміну, што пасадзіла на сваім участку 2500 дрэў.

— Proszę przywrócić działkę do stanu sprzed zalesienia.

Іншымі словамі, выкарчуй тыя 2500 байкаватых дрэў. Я пайду да медыяў!

Размова не была прыемнай. Войт: — A co, pani myśli, teraz to jak w PRL-u? A starzy ludzie są tacy i owacy! — Я была ў юрыста. — A prawnicy plotą byle co! — А я пісала ў міністэрства! — A ministerstwo pisze byleby pisać. Ja tu jestem gospodarzem.

На тым скончылася размова, што войт мне сказаў: «Nie liczą się słowa mówione, liczą się słowa pisane». Я тлумачу гэта так: ён можа гаварыць мне што хоча, а пасля ад гэтага можа адмовіцца. А што з «вырубанымі тапаром» дрэвамі?

Пазваніла я яшчэ раз да дзяўчыны з аховы асяроддзя, сказаўшы ёй, што войт мне загадаў вярнуць участак да стану перад аблясеннем.

— To napisze pani do nas.

Ну, дык я напісала. Вельмі імпульсіўна, хаатычна. Напісала я скаргу. Накіравала ў ахову асяроддзя ў Орлі, і да ведама да аховы асяроддзя ваяводскай управы ў Беластоку. І няма адказу на гэту скаргу. Думаю, што скарга не вельмі талковая, мо лішне хаатычная. Напісала я, што пасадзіла дзве з паловай тысячы дрэў, што гэта быў мой гонар, мая цаглінка ў ахову асяроддзя, а змяніліся ўлады і выявіліся два шкоднікі. Так, назвала іх шкоднікамі, і пералічыла іх імёны...

Гэта было шостага лістапада. Дзявятага братанак, які застаўся ў сямейным доме Калішукоў, што дзед яго будаваў, паведамляў, што вывалілі пяць дрэў, а трынаццатага звоніць:

— Цётка, якіесь дурніе лётаюць по тваім лесе з фанарыкамі, у поцемках.

— А што яны там робяць? Чаго шукаюць?

Назаўтра Лёнька пайшоў праверыць. Заўважыў, што калі чыноўнікі разварочвалі аўто, то перакулілі і зламалі яшчэ адну бярозку. Гразь, коўзка, і яшчэ адна ахвяра з пасаджаных Верай 2500 дрэў.

Вера Калішук прыцiскае да грудзей ніўскую кнігу пра бежанцаў, сярод якіх — яе дзед Андрэй, які вярнуў гэтую зямлю з кустоўя, да якой вярнуўся з азіяцкіх далячынь, культываваў яе, цырабіў уласнымі пальцамі...

— Мама, давай кінем гэту спрэчку, — просіць маці ягоны праўнук Павел. — З-за пару дрэў не трэба псаваць адносін з людзьмі.

— Гэта толькі шэсць бярозак. Каб не было большай бяды! Але адна справа: падыход да чалавека радным і чыноўнікам, знішчэнне чужой маёмасці, нязгоднасць з правам. І які прыклад даюць яны іншым? Даюць дазвол на такую самую дзейнасць. Тваё можна беспакарана знішчаць, без спасылкі на закон і справядлівасць. Можа, ёсць нейкі брыдкі прыклад «зверху»?

Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ

# Галады былі беднай вёскай

**Размова з Янам БАГІНСКІМ, народжаным у 1930 годзе ў Галадах, зараз пенсіянерам, пражываючым у Ольштыне.**

(працяг з Нівы № 06)

**— А як Вы запамяталі навуку пасля вайны ў Орлі? Хто навучаў, хто з Вамі вучыўся?**

— Мелі мы добрых настаўнікаў: Васіль Фаміч (Лашкевіч), Варвара Іванаўна (Буйноўска-Лашкевіч), польскай мове вучыла Цежухова (Галена). Прозвішчаў не помню, бо імі не карысталіся. У арлянскую школу хадзіў у V, VI, VII класы, штодзённа пяць кіламетраў пяшком. Праз нейкі час, зімою, жыў на кватэры ў спадарства Жабінскіх, каля рынку.

Разам са мною жыў армовец з кулямётам; я праходзіў праз яго пакой. Быў ён алкаголікам. Па начах спахапляўся ў дэлірыі і ваяваў з пацукамі, вялікімі белымі мышамі. Крычаў, што яго душаць, біў прыкладам вінтоўкі аб сцяну, падлогу, пераварочваў ложак, пароў яго штыкам. Ён жыў у суседнім пакоі, побач мяне. Калі ён пачынаў дурэць, я замыкаў яго пакой. Маё памяшканне было пераходнае і я пабойваўся, што ён у нейкі момант захоча тудою прайсці. Не мог я заснуць да часу, аж армовец супакойваўся. Найчасцей засынаў пад сталом. Прыадкрываў я дзверы і заглядаў, ці спіць. Тады я спакойна клаўся і крыху спаў да раніцы. Гаспадар дома ведаў пра тыя выхадкі.

Аднойчы, калі я вярнуўся са школы, гаспадыня паведаміла мяне, што буду спаць у іншым памяшканні. Армовец ноччу пакончыў з сабою, застрэліўся ў шалёным парыве. Была міліцыя, праводзілі расследаванне і толькі пасля тыдня мог я вярнуцца ў ранейшае памяшканне. Пасля мяне пыталі, ці не пужае дух самагубца; не пужаў.

[Пасля вайны доступ да пасад ахоўнікаў закону атрымалі таксама асобы праваслаўнага веравызнання. Найстарэйшыя жыхары Орлі ўспамінаюць нейкага Куколку з Шарнёў, які жыў на кватэры менавіта ў Жабінскіх. Не быў ён тыповым міліцыянерам, ён мог насіць пры сабе дзве штукі агнястрэльнай зброі і ягонай задачай была ахова будынка Гмінных управы па вуліцы Бельскай. Паводле расказаў жыхароў Шарнёў, ён учыніў самазабойства. Паводле іншага расказу Куколка не учыніў сабе канцоў, быў гэта выпадак: быў п’яны, акурат пасля хрысцін і дома прыснуў седзячы, абапіраючыся на зараджанае ружжо. Цяжка раненага вёз фурманкай у бельскую бальніцу званар Амільяновіч, але каля Волькі той памёр, — М. М.]

Разам са мною ў арлянскую школу хадзілі Уладзімір Карпюк (пасля быў дырэктарам Цэнтралі другаснай сыравіны ў Беластоку), Ольга Пакола са Шчытоў-Дзенцялова, Міхал Корзун, Ян Жмейка, Тамара — дачка свяшчэнніка, Тэрэса — дачка арлянскага каменданта міліцыі.

Пазнаёміўся з калегамі. Ян Рубашэўскі з калёніі Антанова скончыў штудыі, жыў у Гданьску, быў лётчыкам, лётаў на МіГах. Каторысь з калег уцёк самалётам у Германію, самалёт немцы вярнулі, лётчык астаўся, школу распусцілі. Рубашэўскі астаўся ў Гданьску, выкладаў на палітэхніцы. Аляксандр Карач з Орлі жыў у малой старой хаціне. Пасля штудыяў працаваў у МУСе ў Варшаве. Калі я яго адведаў, меў званне палкоўніка і быў начальнікам контрразведкі. Пакуль я дастаўся ў яго кабінет на пятым паверсе, мусіў прайсці аж тры праверкі. Пад кабінет прывёў мяне паручнік, увёў мяне ў кабінет і чакаў пад дзвярамі. На жаль, яны ўжо не жывуць. Быў таксама Ян Кубаеўскі, „Ванечка”, „нястрыжаны Іван”, бо пастаянна быў аброслы. Потым быў ён гмінным сакратаром ПАРП.

**— Як успамінаеце сваю працу? Як пасля вайны працавалася і жылося „простым людзям”?**

— Пасля вайны бракавала адукаваных людзей. Пасля сёмага класа прымалі тады ў афіцэрскія школы. Я запісаўся ў авіяцыю, але дадаткова патрэбная была згода бацькоў; ну і бацька не згадзіўся.


Фота з сямейнага архіва Яна Багінскага

Пайшоў я на нарыхтоўчыя курсы да вышэйшых штудыяў у Любліне, якія былі арганізаваны вясковай моладзі Галоўным праўленнем гмінных спулдзельняў і Саюзам польскай моладзі. Курсы доўжыліся тры тыдні і я з усім спраўляўся даволі добра. Але, на жаль, на канец правалілі палітычную размову. Спыталі мяне: „Як вам дапамагае ГС?” І я адказаў, згодна праўдзе, што ў нічым не дапамагае. Што дапамагаў і дапамагае тым, якія ўмеюць уцерціся ў давер хабарамі. І гэта быў палітычна дрэнны адказ, атрымаў я адмоўную ацэнку і на штудыі мяне не прынялі.

Пазней дастаўся я ў прыватную гімназію і ліцэй для працоўных у Бельску-Падляшскім. Давучваліся там суддзі, пракуроры, кіраўніцтва прадпрыемстваў і гмін, Павятовага камітэта ПАРП. Адзін з такіх партыйных дзеячаў, Пліс, сядзеў са мною ў адной парце. І ён дапамог мне атрымаць працу ў казначэйстве. Сказаў мне напісаць прашэнне, на якім зрабіў дапіску, што „Павятовы камітэт ПАРП падтрымлівае мае захады на працу”, паставіў пячатку і падпісаўся. Быў 1949 год.

Працуючы ў казначэйскай управе вечарамі вучыўся ў гімназіі для працоўных. З таго часу амаль усё жыццё пастаянна недзе вучыўся, давучваўся. Не ведаў сапраўднага дзяцінства — канікул, экскурсій...

У чэрвені 1950 года перавялі мяне ў Польскі нацбанк, які быў тады ў тым жа будынку, што і казначэйская ўправа. Працаваў са Стасем Хмялеўскім з Браньска, які ў часе вайны належаў да АК, пасля выявіўся. Вучыў мяне банкаўскай справе і апрача нармальнай працы мелі мы пад аховай скарбніцу. Ён быў першым скарбнікам і меў ключ № 1, а я быў другім і меў ключ № 2. Ён быў касірам, а я — рэферэнтам. Штодзённа пералічвалі мы стан наяўных грошай у скарбніцы і звяралі яго з касавымі рапартамі. Калі мы набралі вопыту, займала нам гэта 20-30 хвілін, а раней каля трох гадзін.

Стась здаваў свой ключ ад скарбніцы дырэктару банка, а я свой клаў у мяшочак, пламбіраваў і штодзённа заносіў на пастарунак міліцыі; там у сейфе былі дублікаты ключоў. Раз у год прыязджаў у банк прысяжны сейфіст з Варшавы і пераробліваў замкі.

У 1950 годзе, тыдзень перад заменай грошай, Стася раптам пасадзілі. Трапіў у арышт, а мяне без падрыхтоўкі перавялі ў касу.

Арганізацыя замены грошай была вельмі дрэнная. Не хапала нам вопыту, нейкага плана, падрыхтоўкі. Я быў касірам „ад усяго”. Стан на рахунках быў пералічваны ў прапорцыі 1:10. Найгорш на замене выйшлі тыя, якія свае зберажэнні трымалі дома. Саму замену грошай улады трымалі пад строгім сакрэтам. Я выплачваў новыя грошы і прымаў старыя на замену: ад устаноў у разліку 1:10, а ад індывідуальных грамадзян у разліку 1:100. Чарга да майго акенца стаяла далёка на вуліцы — хіба ў два разы аплятала будынак банка. Людзі плакалі, праклiналі, кідалі грошы ў касу і адыходзілі найчасцей з крыкам або плачам.

Пасля некалькіх тыдняў ад замены вярнуўся ў банк Стасё Хмялеўскі і зноў працавалі мы разам. Заносілі ў кнігі ўсе аперацыі ўручную, пад капіравальную паперу, шкляным пяром. Вынікі падводзілі на лічыльніках. Пасля нейкага часу даставілі лічыльныя машынкі з ГДР.

**— Войска?**

— 24 красавіка 1951 года пайшоў у войска. Павестку прынеслі на працу, на наступны дзень трэба было з’явіцца ў ваенкамат. Вахцёра з банка таксама прызвалі. Скіравалі нас у Мрангова, у стралецкую роту. Пасля раздзялілі нас у залежнасці ад адукацыі і пакончаных школ. Я трапіў у разведачны ўзвод. Пакуль выехалі па палігон, штодзённа цягам двух тыдняў маршыравалі мы па 15-20 кіламетраў у поўным рыштунку. Жаўнерская экіпіроўка важыла тады каля трыццаці кілаграмаў, а я сам усяго пяцьдзясят.

Абучвалі нас як спецназ. У войску не было тады камандосаў, а іх ролю выконвала ў пэўным сэнсе разведка. На ўзбраенні мелі мы, апрача традыцыйнага ружжа, кароткія штыкі, г.зв. фінкі. Абсталяваны мы былі матацыкламі — нямецкімі „эмкамі” і савецкімі „іжамі”. Мелі таксама перыскопы.

У 1951 годзе ўспыхнула вайна ў Карэі. Сарганізавалі дадатковы прызыў, падмацавалі палкі, дывізіі. Прадоўжылі на год службу. Мой брат Элік служыў тры гады; хаця меў толькі 2-3 класы падставовкі, назначылі яго камандзірам танка Т-34. З палігона ў казармы вярнуліся цягнікам.

Памалу рыхтаваліся да дэмабілізацыі. Прыйшоў загад, хто можа закончыць службу. Атрымаў картку ў магазін па цывільную вопратку, а там — неразбярыха. У маім мяшку былі нейкія анучы, а па маёй вопратцы ні следу. Кладаўшчык сказаў, што калі хачу дэмабілізавацца, то павінен я ўзяць тое, што ёсць. Сталі мы на апошні збор, паручнік завёў нас на чыгуначную станцыю і завёз у Ольштын. Дадому вярнуўся я 1 лістапада 1952 года. Ад войска асталося многа ўспамінаў; часта расказваў іх сваім унукам перад сном. Кожны з маіх калег служыў у войску. Нікому нават не прыходзіла думка выкручвацца ад службы.

**— Пасля войска зноў праца?**

— Зноў працаваў скарбнікам у Польскім нацбанку ў Бельску-Падляшскім і вёў рахункі спецыяльных суб’ектаў. З войска вярнуўся я з недалечанымі лёгкімі, мусіў пайсці ў шпіталь. Напісаў у Міністэрства абароны — атрымаў аднаразовую кампенсацыю за шкоду для здароўя вартасцю ў адну месячную зарплату кадравага сяржанта, а пазней медыцынская камісія выдавала мне пастанову пра належныя мне правы вайсковага інваліда. Было так да 1956 года, бо пазней я не прадаўжаў гэтых правоў, бо нічога яны не давалі.

У банку вёў я скупку замежных валют. У тыя часы нельга было мець долараў, а калі нехта іх атрымаў у лісце або пераводам, мусіў іх прадаць нацбанку па дзяржаўным курсе. Таможная палата кантралявала замежныя пасылкі. Дзяржаўная цана долара была крыху большая за залатоўку, а на чорным рынку за долара плацілі больш за семдзесят злотаў.

У банк прыходзілі службоўцы з Управы бяспекі правяраць працэдуры аховы дзяржаўнай тайны. Вымалі з кашоў капіравальныя паперы, чарнавікі. Аднойчы паклікалі ў УБ загадчыцу нашага аддзела. Вярнулася заплаканая і растрывожаная. Загадалі ёй падпісаць абавязацельства, што нікому не скажа, пра што яе дапытвалі.

На другі-трэці дзень і я атрымаў выклік ва УБ. Пыталі мяне пра тыя няшчасныя пячаткі, капіравальныя паперы, чарнавікі. Я бараніў загадчыцу. Тлумачыў афіцэру, што ў войску вучылі нас, што абазначае „сакрэтнае”, „строга сакрэтнае”, „сакрэтнае спецназначэння”. Службіст быў уражаны маімі ведамі, памякчэў. Я тлумачыў, што банкаўскія чарнавікі не маюць ніякай вартасці. Падпісаў пратакол і абавязацельства захавання тайны. У банку супакоіў дырэктара і загадчыцу, якой да канца працы ўжо не дакучалі.

**— Пасляваенныя гады гэта цяжкі і складаны перыяд?**

— З Галадоў на працу даязджаў на роварах, зімою жыў у Бельску. Пасля працы і па нядзелях ангажавалі нас да грамадскіх чынаў. Чынамі рабілі папраўдзе ўсё: газоны, тратуары, басейны, дарогі, зносілі старыя будынкі. Давозілі нас дапамагаць пры дрэнажы, а бывала, што вазілі ачышчаць Варшаву ад друзу. Бралі нас, працаўнікоў банка і іншых устаноў, збіраць пазямельны падатак; вазілі па вёсках. Слаба гэта атрымлівалася, бо вёскі былі бедныя.

Рыхтаваліся да першых выбараў у грамадскія рады. Паколькі я належаў да ЗМП і быў пасля войска, назначылі мяне павятовым упаўнаважаным для назірання за выбарамі ў Грамадскую раду нарадовую ў Галёнках. У парткамітэце сказалі мне, што мушу быць вельмі асцярожным, бо ў маім раёне дзейнічаюць яшчэ пасляваенныя банды. Для дапамогі атрымаў узвод войска і меў дакладваць аб сітуацыі. Войска, як параіў мне сакратар і мой калега, прыхавалася ў школе ў пачатку вёскі. Усё дапільнавалі мы ўтраіх: я, сакратар і ксёндз, які ўвесь час размаўляў з людзьмі, тлумачыў, супакойваў. Падыходзіў таксама да асоб у доўгіх палярынах, пад якімі відаць было абрысы ружжа.

Вечарам з усіх бакоў было чуваць выстралы з аўтаматаў. Некаторыя стралялі светлавымі снарадамі. Участак закрылі ў дзесяць вечара, каля поўначы сціхла страляніна. Спісалі пратакол, запламбавалі мяшкі і пазванілі па войска, якое начавала ў школе. Афіцыйным лозунгам было „Władza bliżej ludu”.

Рыхтаваліся да арганізавання новых паветаў. Разбудова адміністрацыі патрабавала новых чыноўнікаў. Паслалі мяне ў Варшаву на курсы кадравых кіраўнікоў, якія доўжыліся з 21 красавіка да 25 ліпеня 1954 года. З нашага ваяводства было яшчэ траіх і ніхто з нас не меў сярэдняй адукацыі — гаварылі пра нас, што мы з сацыяльнага авансу.

Восенню 1954 года наведаў мяне на працы персанальны з Ваяводскай управы і сказаў, што рыхтуюць мяне на загадчыка фінаддзела ў Замбраве або Лапах; я выбраў Лапы.

Не было ў мяне касцюма, а купіць яго мог толькі ў растэрміноўку. Зрабілі так: калега Уладэк купляў касцюм быццам сабе, за крэдыт ручаўся ягоны калега, а вопратку выбіраў я. Прадаўшчык сказаў, што ўпершыню бачыць такую здзелку.

Працаваў таксама ў грамадскіх арганізацыях. Там не атрымліваў ніякай зарплаты, затое арганізацыі ўшаноўвалі мяне сваімі адзнакамі.

**— Ваша сямейнае гняздо ў Галадах апусцела. Як зараз жывецца Вам на пенсіі ў Ольштыне?**

— Жыву спакойна ў кватэры на восьмым паверсе, адкуль бачу прыгожы ландшафт. Апрача здароўя нічога мне не бракуе. Прыедзе дачка, забярэ мяне на Галавасека або на Усіх Святых, бо на магілках у Шчытах спачываюць мае бацькі, брат і сястра.

**— Вельмі дзякую за размову.**

* * *

Спадар Ян Багінскі атрымаў шмат адзнак, у іх ліку дзяржаўныя Афіцэрскі крыж адраджэння Польшчы, Залаты і Сярэбраны крыжы заслугі ды шмат адзнак грамадскіх арганізацый.

Міхал МІНЦЭВІЧ

1 ☞ працяг


■ Справа сядзіць Валянціна Кярсноўская — дачка святога мучаніка Фёдара, ваза-ка Якімюка з Падрэчан, яе муж Ян і іх сямейнікі

вернікі і паломнікі разам з протаіерэем Лявонам Савічам у Міхайлаўскай царкве ў Вульцы-Выганоўскай маліліся за ўпакаенне душ забітых атрадам «Бурага». Брацтва трох святых іерархаў 2 лютага арганізавала паломніцтва ў Браньск, Зані і Шпакі, у якім прынялі ўдзел вернікі родам з розных куткоў Беласточчыны. Ушанавалі яны такім чынам памяць жыхароў вёсак Зані і Шпакі, якія 2 лютага 1946 года былі забіты атрадам «Бурага». Старшыня Брацтва трох святых іерархаў Славамір Назарук заявіў, што важным з'яўляецца ўспамагчы ў малітвах нашчадкаў забітых, якія жывуць у розных аддаленых месцах. Спачатку паломнікі прынялі ўдзел у літургіі, якая служылася ў царкве ў Браньску, а пазней маліліся каля крыжоў і помнікаў у Занях і Шпаках, каля месцаў пакутніцкай смерці больш за трыццаці жыхароў абедзвюх вёсак.

— Ёсць планы, што ў час веснавога пасяджэння Сабор епіскапаў Польскай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы будзе разглядаць прапанову далучэння да ліку святых мучанікаў Падляшскай і Холмскай зямлі пакутнікаў забітых у Занях, Шпаках, Залешанах і іншых месцах атрадам «Бурага». Ёсць блаславенне ўжо і зараз маліцца да гэтых пакутнікаў, як да святых мучанікаў. Важным было ў Браньску, Занях і Шпаках падтрымаць у малітвах нашчадкаў забітых, якія засталіся жыць на месцы або прыязджаюць сюды памаліцца, — сказаў настаяцель Дубіцкага прыхода мітрафорны протаіерэй Андрэй Якімюк, які ўзначальваў малітвы ў Занях і Шпаках.

Да ўшаноўвання памяці забітых атрадам «Бурага» і месцаў, дзе яны загінулі заклікаў старшыня Беларускага гістарычнага таварыства прафесар Алег Латышонак, які прымаў удзел ва ўрачыстасцях у Рыгораўцах, Шчытах-Дзенцялове, Бельску-Падляшскім, Браньску, Занях і Шпаках. Лічыць ён, што культ Падляшскіх мучанікаў будзе ўзмацняцца і штораз больш людзей будзе прымаць удзел у паломніцтвах на месцы іх пахавання або смерці.

❖ Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**

Białystok, 5.02.2020

Sz. Pan
Eugeniusz Szpakowski
Dyrektor OTV Białystok
15-464 Białystok
ul. Włókiennicza 16A

W imieniu Białoruskiego Towarzystwa Historycznego zwracam Pańską uwagę na materiał informacyjny „W Zaleszanach upamiętniono ofiary pacyfikacji wsi w styczniu 1946 roku", wyemitowany przez TVP Białystok w „Obiektywie" z dnia 29.01.2020.

W materiale tym przedstawiono jako oficjalne stanowisko Instytutu Pamięci Narodowej komunikat z dnia 03.03.2019 r., umieszczony na stronie IPN: „W naszej ocenie tragiczne zdarzenia spowodowane przez „Burego" i jego żołnierzy nie odpowiadają definicji zbrodni ludobójstwa, określonej w Konwencji ONZ z 9 grudnia 1948 r. jako: „czyn dokonany w zamiarze zniszczenia w całości lub części grup narodowych, etnicznych, rasowych lub religijnych jako takich". Uważamy, że „Bury" nie działał z zamiarem zniszczenia (ani w całości, ani w części) społeczności białoruskiej lub też społeczności prawosławnej zamieszkałej na terenie Polski w jej obecnych granicach".

Komunikat ten i zamieszczona w nim argumentacja wywołały międzynarodowy skandal, w związku z czym IPN wydał 21.03.2019 r. oficjalny komunikat stwierdzający, że komunikat z 11 marca przedstawia wyłącznie wyniki badań jego autorów, natomiast oficjalne stanowisko IPN nie ulega zmianie, gdyż „żadne interpretacje naukowe, nawet dalece rozmijające się z sentencją umorzenia śledztwa, nie mogą zmieniać decyzji prokuratora. Takiej ewentualnej zmiany dokonać może wyłącznie niezależny w swoich decyzjach od Prezesa Instytutu Pamięci Narodowej prokurator, jedynie po ewentualnym wznowieniu śledztwa. Zawarte w poprzednim komunikacie sformułowania nie wyrażają intencji wznowienia śledztwa".

Pragnę w tym miejscu przypomnieć, że według prowadzącego śledztwo w rzeczonej sprawie prokuratora IPN Dariusza Olszewskiego „należy stanowczo stwierdzić, iż zabójstwa furmanów i pacyfikacje wsi w styczniu lutym 1946 r. nie można utożsamiać z walką o niepodległy byt państwa, gdyż nosi znamiona ludobójstwa. W żadnym też wypadku nie można tego co się zdarzyło, usprawiedliwiać walką o niepodległy byt Państwa Polskiego".

Ośrodek TVP w Białymstoku działa w regionie licznie zamieszkanym przez białoruska mniejszość narodowa. Wypadałoby więc, by w sprawach dotyczących tej mniejszości dziennikarze Ośrodka wykazywali choćby minimum profesjonalizmu. Być może TVP Białystok uniknęłoby błędu, gdyby przedstawione w rzeczonym materiale prywatne stanowisko p. Bogusława Łabędzkiego, wypowiadającego się rzekomo w imieniu IPN, skonfrontowano z rzeczywistym stanowiskiem Instytutu Pamięci Narodowej w tej sprawie.

Do wiadomości:
p. Jacek Kurski, Prezes Zarządu Telewizji Polskiej S.A., Media




Палітычныя рэпрэсіі ў Беларусі ад пачатку праўлення бязменнага пакуль прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі не спыняліся ні на імгненне. З большага яны тычацца альбо незалежных журналістаў, якія рэалізуюць права кожнага чалавека на свабоду распаўсюду інфармацыі, альбо звычайных грамадска актыўных грамадзян, якія спрабуюць выказаць сваё меркаванне праз мірныя масавыя сходы, што таксама з'яўляецца іх неад'емным канстытуцыйным правам.

Часам рэпрэсіі крыху сцішваліся, часам — зноў узмацняліся і накрывалі большую колькасць беларусаў. Такія павелічэнні і памяншэнні рэпрэсій, якія заключаліся ў пакаранні штрафамі ці арыштамі, звычайна былі звязаны з палітычнымі падзеямі ці працэсамі. Так, напрыканцы мінулага года тысячы людзей у Мінску выйшлі на вуліцы, каб заявіць аб сваёй нязгодзе з прыхаванай здачай краіны суседняй Расіі. Цяпер тых, хто спрабаваў сказаць „не" здрадзе Беларусі, судзяць і караюць тымі ж штрафамі і арыштамі. Гэта значыць, што беларускую краіну захлынула новая хваля рэпрэсій.

Ну а там, дзе ёсць палітычныя рэпрэсіі, абавязкова ёсць палітычныя вязні. І каб людзі ведалі аб іх, ужо не адзін год працуе ў інтэрнэце сайт, які носіць назву „Свабоду палітвязням!" і знаходзіцца па адрасе **https://palitviazni.info**.

„Гэты сайт прысвечаны палітвязьням, якія пацярпелі ад дыктатарскага рэжыму ў Рэспубліцы Беларусь. Сайт створаны і працягвае ствараціца дзеля таго, каб яшчэ раз нагадаць пра гісторыі жыцьця і перасьледу гэтых людзей. Для таго, каб мы, беларусы, не забываліся, у якой краіне мы жывем, і разумелі, што працягнуць сьпіс палітвязьняў можа кожны з нас. Каб людзі ўсяго сьвету ведалі, што ёсьць такая краіна — Беларусь, і што на нашай цудоўнай зямлі людзі сядзяць у турмах па палітычных матывах", — распавядаецца на старонцы „Пра сайт".

Стваральнікі гэтага своеасаблівага анлайн-архіва сцвярджаюць — спіс тых, чые лёсы ламае недэмакратычная ўлада, пастаянна павялічваецца. „Такое становішча рэчаў азмрочвае цяперашні дзень Беларусі і яе будучыню, заганяе многіх людзей у падполле альбо эміграцыю. Нельга не адзначыць, што адсутнасць перспектыўнай будучыні, у сваю чаргу, павялічвае ў беларускім грамадстве шэраг негатыўных з'яваў, такіх, як самазабойствы, алкагалізм, узровень злачыннасці, не кажучы ўжо пра дэмаграфічныя праблемы рознага кшталту", — гаворыцца на дадзенай старонцы.

Паводле размешчанай там інфармацыі, ідэя стварэння сайта належыць актывістам забароненага беларускімі ўладамі праваабарончага цэнтра „Вясна". Праўда, не ўсё зразумела ў напісаным, бо невядома, хто аўтар таго тэксту, расповед у якім вядзецца ад уласнага імя.

Акрамя прэзентацыйнай старонкі сайт мае яшчэ некалькі старонак. На галоўнай месцяцца навіны, якія датычныя палітычна рэпрэсаваных актывістаў. Рубрыка „Усе палітвязні" змяшчае алфавітны спіс тых, хто спазнаў палітычны пераслед. Праўда, давядацца падрабязней аб абставінах пераследу праблематычна — каротккі анонс кожнага расповеду спыняецца на паўслове і не мае працягу. Такая ж сітуацыя і з наступнымі рубрыкамі — „Зараз за кратамі" і „З абмежаваннем волі". Падаецца, што стваральнікам сайта з вельмі важнай інфармацыяй варта больш дбайна падыходзіць да сваёй працы.

❖ **Аляксандр ЯКІМЮК**



Дата з Календара Дата з Календара Дата з Календара Дата з Календара Дата з Календара Дата з Календара Дата з Календара

# 220 гадоў з дня нараджэння Валянціна Ваньковіча

Мастак эпохі рамантызму Валянцін (Валенці-Вільгельм) Ваньковіч нарадзіўся 14 лютага 1800 г. у вёсцы Калюжыца (Бярэзінскі раён), што недалёка ад Мінска. Належаў да старажытнага шляхецкага роду герба „Ліс". З сям'і Мельхіёра Ваньковіча і Схаластыкі Гарэцкай, сястры польскага паэта Антоні Гарэцкага. Бацька быў ігуменскім павятовым суддзёй і валодаў маёнткам Малая Сляпянка (цяпер частка Мінска). Дзяцінства Валянціна прайшло ў Сляпянцы.

Вучыўся Ваньковіч у Полацкім езуіцкім калегіуме (1811-1818 гг.), дзе захапіўся жывапісам, шмат капіяваў з натуры. Першым яго настаўнікам у жывапісе быў будучы генерал ордэна езуітаў Габрыэль Грубер, мініяцюрыст, ураджэнец Вены. Малады Ваньковіч у вольны ад вучобы час чытаў старыя кнігі, сабраныя ў бібліятэцы езуітаў, і капіяваў карціны, якія знаходзіліся ў манастыры. Па заканчэнні шостага класа ён ужо ўмеў маляваць мініяцюры і партрэты алеем, удасканальваючы малюнак і колер. Потым у 1818-1824 гг. атрымліваў адукацыю на аддзяленні літаратуры і прыгожых мастацтваў Віленскага ўніверсітэту ў прафесара Яна Рустэма, дзе практыкаваўся ў партрэце. На першай мастацкай выставе факультэта малады мастак атрымаў шырокае прызнанне сваёй творчасці. Наведваў заняткі на факультэце фізічных навук, вывучаў оптыку і законы святла. Каля 1821 г. Ваньковіч пазнаёміўся ва ўніверсітэце з земляком — Адамам Міцкевічам. Яны слухалі адзін і той жа курс лекцый, хутка пасябравалі. Іх адносіны сталі асабліва блізкія пасля таго, як мініяцюра панны Верашчакоўнай, якая вельмі спадабалася Міцкевічу, трапіла ў яго рукі. За гэта паэт падзякаваў мастаку вершам. Пазней Ваньковіч быў накіраваны на завяршэнне мастацкай адукацыі ў пецярбургскую Акадэмію мастацтваў (1825-1828 гг.). За дыпломную працу „Подзвіг кіяўляніна ў 988 годзе" яму прысудзілі Малы залаты медаль з правам стажыроўкі за мяжой.

Валянцін Ваньковіч ажаніўся з Анеляй Растоцкай, ад якой меў трое дзяцей. Двое сыноў Адам і Ян пазней былі ўдзельнікамі паўстання 1863 г. З 1829 г. жыў у доме свайго брата Эдварда Ваньковіча (дом захаваўся), там жа бывалі яго сябры-мастакі, а таксама Станіслаў Манюшка, Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч і іншыя. Меў майстэрню ў Малой Сляпянцы — тагачасным прыгарадзе Мінска. У мінскай майстэрні працаваў з сябрам Чэславам Манюшкам. З пачаткам паўстання 1830 г. меў намер далучыцца да паўстанцаў (купіў зброю і каня), але працяглая хвароба не дала здзейсніцца гэтаму.

У ліпені 1839 г. выехаў у эміграцыю. Наведаў Мюнхен (удзельнічаў там у выставе), Дрэздэн, Берлін, у верасні 1841 г. прыехаў у Парыж і пасяліўся ў Адама Міцкевіча. У Парыжы пачаў новы этап у сваёй творчасці, у якім узраслі містычныя настроі. У 1842 г. стварыў свой апошні аўтапартрэт.

Памёр Валянцін Ваньковіч 12 траўня 1842 г. у Парыжы ад сухотаў на руках у Адама Міцкевіча, які запісаў яго тастамент: частку сваіх карцін мастак перадаў сям'і і сябрам юнацтва — Міцкевічу і Анджэю Тавяньскаму, астатнія былі прададзеныя з аўкцыёну за пазыкі, але сумы на ўсю выплату не хапіла. Пахаваны мастак на могілках Манмартр-дэ-Сэн-Дэні. Апошняя яго карціна „Маці Божая Вастрабрамская" знаходзіцца ў парыжскім касцёле Сэн-Севярын з 1841 года. Творы мастака захоўваюцца ў зборах Вільні, Пецярбурга, Варшавы, Кракава, Парыжа. Многія працы і ў прыватных калекцыях нашчадкаў тых, каго мастак пісаў у першай палове XIX ст.

❖ **Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Навіны з Кляшчэлеўскай гміны

Кляшчэлі — мястэчка Гайнаўскага павета Падляшскага ваяводства. Праз Кляшчэлі праходзяць краёвая дарога № 66 і ваяводскія дарогі № 685 і № 693, якія спалучаюць мястэчка з Беластокам, Гайнаўкай і Сямятычамі, а побач пралягае чыгуначны шлях у Беласток і Брэст.

У гміне ў чатырнаццаці салэцтвах пражывае 2550 жыхароў. Дзесяць гадоў таму, у 2010 годзе, пражывала 2889 жыхароў, у тым ліку ў Кляшчэлях — 1442; у 2011 годзе адпаведна: 2840 і 1411; у 2012 — 2794 і 1396, а ў 2018 годзе — 2502 і 1279. Бургамістрам Кляшчэль з'яўляецца Аляксандр Сяліцкі. Месцачкова-вясковую Раду гміны ўзначальвае Аляксей Рошчанка, а намеснікам старшыні з'яўляецца Дар'я-Марыя Сянкевіч. Салэцтвы прадстаўляюць пятнаццаць радных.




*

24 студзеня я пакарыстаўся нагодай паразмаўляць з бургамістрам **Аляксандрам СЯЛІЦКІМ**. Вось кароценькі змест нашай размовы:

*— Скажыце, калі ласка, якім бюджэтам карысталіся Кляшчэлі ў мінулым годзе і якія задачы рэалізавалі?*

— У мінулым годзе бюджэт гміны склаў дзевяць мільёнаў злотых. Асноўнай задачай была будова водаправода і перабудова водна-каналізацыйнай сеткі на вуліцах Каляёвай і Зьрудлянай. Кошт задачы — адзін мільён семдзесят тысяч злотых. Палова работы была выканана ў мінулым годзе, сёлета будзем завяршаць інвестыцыю з дапамогай банкавага крэдыту ў 800 тысяч злотых. Выканаўцам работ была фірма Падляшскія водаправоды ў Беластоку. Чарговай задачай была ўстаноўка фотавальтаічных панэляў на прыватных забудовах. Работы праводзіліся ў сорак дзевяці гаспадарках. Кошт задачы больш за мільён сто тысяч злотых. Варта адзначыць, што гаспадар пакрываў адно 30% коштаў, што складае 7-8 тысяч зл. Рэшта затрат была пагашана Рэгіянальным аперацыйным праектам (РПО). Рамантавалі дарогі ў Дашах, Залешанах і Саках. Перабудавалі азбеставую водна-каналізацыйную сетку на вуліцы 1 Мая. Кошт задачы — восемдзесят тысяч злотых.

*— Чым сёлета будзе займацца гміна?*

— У гэтым годзе завершым пабудову каналізацыі. Перабудова дарогі Косьна-Пагрaбы — адрэзак 700 метраў — гэта чарговая задача. Кошт складзе восемсот тысяч зл. Дарога Сакі-Залешаны — 500 метраў — будзе каштаваць 200 тысяч зл. Пры дарожных інвестыцыях гміна пакарыстаецца фінансавай дапамогай у 60% (600 тысяч зл.) Фонду самаўрадавых дарог у Беластоку. Будзе весціся перабудова трох стаянак у цэнтры мястэчка, таксама будова тратуараў на вуліцах Зьрудлянай і Касцюшкі — кошт 60 тысяч зл. Прадбачваецца перабудова вуліцы побач вясковай святліцы ў Сухавольцах, будова пешаходна-роварнай сцежкі ў Дабрывадзе — пакрые гміна з уласных сродкаў. Неабходны будаўнічы матэрыял з дэмантажу краёвай дарогі гміна атрымала бясплатна ад Генеральнай дырэкцыі ў Беластоку.

*— Скажыце, калі ласка, колькі турыстаў у летнім сезоне карыстаецца Рэпчыцкім вадаёмам? Якія чакаюць іх атракцыёны?*

— Вадаём у Рэпчычах у мінулым годзе, паводле прададзеных уваходных білетаў, наведала каля дваццаці пяці тысяч айчынных і замежных турыстаў. Гэта ў рэйтынгу турыстычных гмін ставіць нас на другім месцы ў Гайнаўскім павеце пасля Белавежы. Гміна, апрача пляжа, рэкамендуе турыстам духмянае паветра, багаты ў ягады і грыбы лес, аматарам вудзільнай рыбалкі магчымасць удалых трафеяў. Над вадаёмам арганізуюццарознага віду культурныя мерапрыемствы, у тым ліку Дні Кляшчэляў і пячэння бульбы. У гміне можна знясць кватэру ў агрaсядзібах, якія прапануюць смачнае дамашняй вытворчасці харчаванне і культурны адпачынак. Такія кватэры знаходзяцца ў Дабрывадзе і Кляшчэлях. Ініцыятыўнымі сёламі лічацца Дабрывада, Тапаркі, Дашы і Палічна. У гэтых сёлах працуюць гурткі вясковых гаспадынь. Ініцыятыўнымі важакамі з'яўляюцца мясцовыя солтысы. Варта адзначыць, што ў мінулым годзе рэалізавалі еўрасаюзны праект Фонду развіцця варты 50 тысяч злотых, які дазволіў нам стварыць ганчарскую майстэрню на тры месцы працы для вытворчасці гаршкоў ды печку для выпальвання глінянага посуду. Адкрыццё майстэрні адбылося 14 студзеня.

Гутарыў **Уладзімір СІДАРУК**

## Запрашаем на вечар паэзіі ў Лешуках

**У суботу, 15 лютага гэтага года (Грамніцы) упершыню ў новапабудаванай прыгожай святліцы ў Лешуках Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета ладзяць вечар беларускай паэзіі. Свае новыя паэтычныя творы чытаць і дэкламаваць будуць вядомыя паэты Нараўчанскай гміны.**

**Пачатак мерапрыемства а гадзіне 16-й. (яц)**

## Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

1. насякомае з джалам у... пасагу = 13 _ 31 _ 17 _;
2. падраздзяленне ў установе = 6 _ 7 _ 25 _ 26 _ 33 _ 12 _;
3. чад або ірпыт = 10 _ 11 _ 38 _;
4. дзікі драпежнік = 21 _ 14 _ 15 _ 36 _;
5. гарадок на Гарадзеншчыне на Івенцы = 1 _ 2 _ 27 _;
6. нутраны авечы тлушч = 5 _ 23 _ 24 _;
7. магутнасць = 40 _ 37 _ 28 _;
8. часцінкі, што лятаюць у паветры і асядаюць на, напрыклад, мэблю = 32 _ 35 _ 34 _;
9. найвышэйшы заканадаўчы орган у Вялікім Княстве Літоўскім = 18 _ 8 _ 9 _ 20 _;
10. грашовае выражэнне вартасці тавару = 29 _ 30 _ 22 _ 19 _;
11. вострая інфекцыйная хвароба, чорная смерць = 16 _ 39 _ 3 _ 4 _.

(ш)

| | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1 | | 2 | | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 |
| 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 |
| | | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 |
| | 31 | 32 | 33 | 34 | 35 | | 36 | 37 | 38 | 39 | 40 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 3 нумара**

Вілюй, вуха, дым, зіма, зло, Масей, Сураж.

Рашэнне: **Людзей слухай, а сваім розумам жыві**.

## 16.02 — 22.02

**(22.03. — 20.04.)** 16.02. твая баявітасць можа стаць агрэсіўнай. З 21.02. можа зачараваць цябе хтосьці новы і свабодны. А калі ты з I дэкады, можаш зноў закахацца ў сваім доўгагадовым партнёры. 17.02. не рабі вялікай імпрэзы, бо будзе пуста, а некаторыя сябры пяройдуць на бок тваіх непрыяцеляў. На працы пасля 16.02. мабілізуйся, актыўна ўдзельнічай у сустрэчах, інтэграцыйных забавах. Нічога не падганяй.

**(21.04. — 21.05.)** Неблагі настрой і форма. Вялікі запал да працы. Але жыць не будзеш толькі работай, будуць рамантычныя рандэву. Народжаныя ў I дэкадзе могуць спакусіцца на пабочны раман (з 20.02.). 21.02. можа заспець цябе навіна пра павелічэнне сям'і. Можаш разлічваць на дапамогу сяброў і знаёмых, радні хутчэй не. З 21.02. схільнасць да празмернай паблажлівасці сабе можа прынесці жалюгодныя вынікі.

**(22.05. — 22.06.)** Жыццё крыху паблытаецца, але настрой будзеш мець неблагі. Не чакай зашмат ад лёсу. Цяпер лепш не купляй большага, задумайся, каб не выкідаць грошай у гразь. З 22.02. абавязкова зайдзі да лекара. Не ігнаруй асабліва працяглага кашлю. З 17.02. здалёк трымайся ад электрычнасці і нічога не ладзь сам. Дома сямейныя напружанасці пачнуцца з 17.02. Адважныя рухі на працы. Чым вышэй падымеш перакладзіну, тым больш дасягнеш. Сябры будуць слухаць тваіх добрых парад.

**(23.06. — 23.07.)** Будзеш адважны, упэўнены, асабліва ў сямейных сувязях. 21.02. усвядоміш крыніцу праблем у сваіх пачуццях. З 18.02. вельмі спраўна дасі сабе рады з рамонтам, прыхарошваннем жылля. Не дай сябе запалохаць канкурэнцыі, не ўваходзь у ніякі бізнес, пакуль усяго не разведаеш. Вельмі дбай аб свае лёгкія. З 22.02. сцішся, зразумей свае патрэбы.

**(24.07. — 23.08.)** Спакойна і з удзячнасцю прымай тое, што нясе табе лёс. Добрыя ўмовы для працы і адпачынку. Дамовы падпісвай перад 17.02. Загуляеш з кімсьці ўсю ноч у большай кампаніі, — не забудзь даць яму свой нумар тэлефона. З 21.02. праявяцца твае мастацкія здольнасці. З 20.02. (да 24.02.) маеш шанцы вырвацца з таксічнага прафесійнага асяроддзя. Можаш змяніць і ўласны імідж.

**(24.08. — 23.09.)** Перастанеш крытычна глядзець на свет. I можаш закахацца! Чакаецца вельмі плённы час. З 18.02. (да 24.02.) твая праца і адданасць для фірмы ўбачацца. Можаш пазмагацца за пасаду. Але пры нагодзе наступіш камусьці на мазоль. Не зрабі дурной памылкі на экзамене ці размове аб працы. Грошы хутчэй будуць выплываць, чым уплываць. З 17.02. (да 29.02.) можа ўскладніцца тое, што было простым.

**(24.09. — 23.10.)** Наробішся, але будзеш задаволены. Будзеш крыху меланхалічны, фізічна слабейшы. З 21.02. да тваіх дзвярэй застукаюць сябры, каб выцягнуць цябе з хаты. I добра! Пераможаш хандру і енкі, што штосьці табе ўсё дакучае. Будзе горш — разлічвай на блізкіх.

**(24.10. — 22.11.)** З 18.02. час спрыяе здабыванні новых умеласцей, ведаў, праекты прынясуць вынікі. 22-24.02. цяплей глянеш на асобу, якую добра ведаеш. Або вырвешся з чыіхсьці нямілых табе абдымкаў. Твая праца ўбачыцца і дацэніцца. Будзеш карыстацца глыбокімі ведамі і інтуіцыяй. Але можа прытрапіцца (ад 17.02. аж да 29.02.), што не будзеш ведаць, што рабіць, а з 18.02. (да 28.02.) твая схільнасць да рызыкі можа моцна вырасці.

**(23.11. — 22.12.)** З 16.02. да 22.02. можаш увесці добрыя змены. З 21.02. сустрэнеш быццам бы ідэал, правер яго на вернасць. З 17.02. некаторыя знаёмыя пакажуць свой сапраўдны твар; пытайся парад у старэйшых сваякоў. З 21.02. не дай панесці сябе лішняму аптымізму і не рабі нічога па вярхах. Будзь цярплівы і засяроджаны.

**(23.12. — 20.01.)** Сваім прыкладам заінспіруеш іншых. Можаш апынуцца на вяршыні. Можаш стаць дарадчыкам і дыпламатам. З 18.02. (да 24.02.) ідэальны час пачаць новы праект, стаць да саперніцтва, выстартаваць на рынку са сваёй фірмай. Але не палі за сабой мастоў, бо нішто не трывае вечна. З 21.02. можаш пазбыцца пару непрыгожых апранах.

**(21.01. — 19.02.)** З 18.02. можаш ажыццявіць свае найбольш адважныя планы. З 21.02. не ўсе, якіх сустрэнеш, будуць бескарыслівымі. Зоркі цікуюць, каб табе дакучыць. Але можаш знайсці новых сяброў. Шукаючы кахання, звярні ўвагу на супрацоўнікаў, нясмелых, але цікавых. З 20.02. патлумач шэфу, каб выслухаў твае прапановы і пайшоў з духам часу. Не купляй спантанна, бо абанкруцішся! Пі вітамін С і магній.

**(20.02. — 21.03.)** Шчасце цябе не пакіне. Пасля 17.02. аднаві старое знаёмства; можа, варта паспрабаваць яшчэ раз? Маладзік Месяца — добры час аднавіць справы і адкрыцца нанова. Лепш не купляй новага, бо можа хутка папсавацца або мець хібы. З 20.02. Рыбы з I дэкады будуць мець ахвоту памяняць працу. Не плануй большых інвестыцый, не бяры пазык, асцярожна падыходзь да прапаноў. З 21.02. хутка пацешыш гандляроў сваімі грашыма. З 22.02. дасканалы час, каб сесці на дыету і ўзяцца за трэнінг.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

**Ніва** ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Мірaслава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.

**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7[00] – 18[00].

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:
Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**

BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945

**Nakład:** 1 300 egz.

# Абнаўленне дарогі

Паўгода таму наведаў быў я мадэрнізацыю адрэзка дарогі між Гайнаўкай і Беластокам, акурат каля Нарвы. Цяпер зноў падаўся туды пабачыць прагрэс работ.

Ад Жыўкова да Навасад абнаўляецца дарога, якой фрагменты паўставалі ў розны час. Адрэзак ад Нарвы да Навасад будаваўся ад асноў у 1954 годзе, акурат пад юбілей дзесяцігоддзя ПНР. Але пра той адрэзак крыху пазней.

Ад Жыўкова да Трасцянкі дарожны рамонт у разгары. Вонкавая, новая, дарога па паўночных загуменнях вёскі будуецца даволі памяркоўна. З заблудаўскага боку ёсць ужо насып, але далей то толькі месца пад дарогу. І ад Трасцянкі да Анцут яшчэ не ўсё гатова. А перад Анцутамі дарога мае пайсці зусім іншым шляхам, непасрэдна цераз пойму ракі Нарвы ў самое мястэчка і выйсці на цяперашнюю вонкавую дарогу ў напрамку Гайнаўкі...

Злез я з аўтобуса каля Анцут і падаўся адразу ў напрамку ракі. Меркаваў я раней, што цераз пойму дарогу пракладуць традыцыйна, па насыпе. Аднак на шляху ўстаноўлены ўжо апоры эстакады; іх на шырыні ўсёй поймы Нарвы сямнаццаць — калі не памыляюся. На першых з іх, з боку Трасцянкі, ужо кладуцца пралёты. Гэтая развязка — эстакада, узрадавала мяне, бо дарога не перагародзіць нарваўскага біятопу, не размяжуе поймы ракі, не створыць бар'ера для мясцовых прыродных працэсаў.

Побач пешаходнай драўлянай кладкі, якая з Анцут вядзе ў Нарву, ёсць брод, які даволі бойка ўезджаны магутнейшымі машынамі, трактарамі. Калі б была цёплая пара, была б і мне нагода перайсці рэчку па вадзе; прыйшлося па кладцы.

У Нарве сеў я на аўтобус і паехаў у Ласінку, пабачыць як там мадэрнізуецца той адрэзак дарогі, які будаваўся 66 гадоў таму. Будаваўся ён тады грамадскім па сутнасці чынам і ў больш мяккіх месцах, балотных, асабліва каля Макаўкі і Прыбудак, пасля абсядаў. Адным словам, гэты адрэзак патрабаваў больш грунтоўнага рамонту.

„Газета Беластоцкая" так пісала недзе ў палове 1954 года: „Для ўшанавання 10-годдзя з дня ў дзень буйнеюць кіламетры рамантаваных грамадскім чынам дарог. Беласточчыя сяляне, заклапочаныя бліжэйшай лучнасцю з будучымі грамадскімі радамі, прысвячаючы кожную вольную хвіліну каб звозіць камяні, каб падсыпаць жвір на дарогі. (...) У мінулую нядзелю дарожны чын згуртаваў 7 тысяч насельніцтва на будучай дарозе, якая мае спалучыць Гайнаўку з Нарвай. На прасторы 11 кіламетраў увесь дзень адбывалася напружаная работа. Прыступілі да яе сяляне з Ласінкі, Нарвы, Нараўкі, Новаберазова і Кленік ды рабочыя, працоўная інтэлігенцыя гайнаўскіх прадпрыемстваў, школьная моладзь. Прыбылі калгаснікі з адлеглых за трыццаць кіламетраў калгасаў. Вялікія табліцы, размешчаныя на адрэзках будучай дарогі, паказвалі, якое прадпрыемства, грамада, калгас, у даным месцы працуе. Уздоўж цэлай трасы расстаўлены буфеты з халаднымі напоямі. Дарогу будуецца ў шчырым полі. Прыблізіць яна Нарву да Гайнаўкі (да якой трэба было ехаць цераз Бельск-Падляшскі) на 45 кіламетраў. ПО-Маўская трактары ў многіх месцах пераворвалі зямлю, а следам за імі спяшалі працавітыя рукі гайнаўскага насельніцтва, узброеныя ў лапаты..."

А ў чарговых нумарах было больш: „Сярод бязмежнага поля палікі вызначаюць будучую дарогу і што нейкі адрэзак жоўтыя таблічы: „Тут працуюць рабочыя Дзяржаўных лясоў з Белавежы"; „Тут працуюць сяляне з грамады Навасады"; „Тут працуюць калгаснікі з калгаса Палічная"; „Тут працуе моладзь Агульнаадукацыйнай беларускай школы" і некалькі дзясяткаў падобных табліц. Паміж жоўтымі табліцамі відаць і чорныя з наспех напісанай крэйдай назвай толькі што прыехаўшай брыгады, недзе з калгаса Чыжы, недзе з грамады Дубічы-Царкоўныя. Бо жоўтыя былі нарыхтаваны тым удзельнікам, якія загадзя задэклараваў працу, а ніхто не спадзяваўся, што прыедуць людзі з адлеглых за трыццаць кіламетраў калгасаў і таму трэба было наспех дастаўляць новыя таблічы. 11-кіламетровая траса ў шчырым полі, якая мае злучыць Гайнаўку з Нарвай, замянілася ў мурашнік людзей, сялян, рабочых, працаўнікоў розных устаноў, жанчын, школьнай моладзі. Са стараны Нарвы аж недзе па Ласінку працавалі сяляне з розных грамад Гайнаўскага павета, а са стараны Гайнаўкі рабочыя гайнаўскіх прадпрыемстваў. І абедзве стараны злучаліся каля Ласінкі, ствараючы суцэльны шнур напружанай працы ў дарожным чыне. (...) Невялікія палоскі хвалюючага збожжа ўрэзваюцца ў вызначаную дарогу і дзе-нідзе аддзяляюць групы рабочых. Гэтае збожжа дачакаецца яшчэ жатвы і толькі пасля папоўніцца ў тых месцах дарогу. (...) Уздоўж трасы часта праязджае прапагандавая машына. На момант лапаты спыняюць рух і ўсе слухаюць плывучых з мегафона слоў. (...) Заградалі да работы тыя словы. Палохалі са схованчаў гультаёў, бо і такіх не бракавала на трасе. Папросту прыехалі сабе на маёўку. (...) Штораз больш наўскасяк падалі чырвоныя сонечныя прамяні. Моўк скрыгат лапат па жвіры і гоман галасоў на трасе. Гоман той, рэха песень, зноў нёсся на польныя зваротныя дарогі ў Новаберазова, Чыжы, Ласінку, Нараўку, Храбустоўку, Макаўку, Ваські, Кленікі, Палічную, Кляшчэлі, Гайнаўку. Вярталіся жыхары Гайнаўскага павета з грамадскага дарожнага чыну. Чыну, які будзе доўжыцца шмат нядзель, вольных ад працы гадзін, каб на 22 ліпеня паўстала новая дарога між Гайнаўкай і Нарвай. Чыну, які дасць 3 мільёны злотаў ашчаднасці. (...) А пасля мінуць ліпень, жнівень, верасень і можа ўжо ў кастрычніку на гэтай трасе пакажацца першы аўтобус. Прыпыніцца ў Ласінцы, Барысаўцы, Крыўцы, Макаўцы і ў шматлікіх грамадах, з якіх упершыню сяляне сядуць у аўтобус ПКС. І з тае пары шматгадзінныя пешыя вандроўкі ў гарады астануцца мінуўшчынай..."



Ад Анцут кладуцца пралёты



Зубрыныя сляды на насыпе з боку Кутавой



Ласінская царква... за гарамі

Ласінка была цэнтральным пунктам новай дарогі. І зараз можна гэта паўтарыць пра тую ж дарогу. Бо побач Ласінкі выраслі магутныя тэрыконы зямлі. Калісьці такія тэрыконы ўзводзіў ледавік, цяпер робяць гэта машыны. Прайшоўся я з Ласінкі ў Храбустоўку. Дарожны насып па ніжэйшым месцы насупраць Прыбудак даволі высокі, магчыма пяць-шэсць метраў над навакольным грунтам. Едучым ці то шашою, ці веладарожкай, будзе можна лепш аглядаць наваколле, заходняя акрайкі Лядскай пушчы ці супрацьлеглыя палі. Вядома, тады, калі будзе бестурботная язда.

На адрэзку, дзе новая дарога ўзнімаецца вышэй над навакольным грунтам, пакуль прабуюць пераходзіць не самыя магутныя мясцовыя жывёлы. Відаць гэта па слядах, а паколькі вядома, што час ад часу паяўляюцца там зубры, то трэба здагадвацца, што гэта яны перaадольваюць непрывычныя ім бар'еры. Бачыць іх подзвігі мне не ўдалося, але сляды так. І яны, зубры, з гэтай вышыні ссоўваюцца ўніз, ссоўваючы з сабою і насып. Магчыма, што цягам нейкага часу яны асвояць іншыя, больш ім зручныя месцы перасякання абноўленай шашы. Здаецца мне, што задумшчыкі рамонту гэтай трасы не падумалі пра тое, пра што не патрабавалі думаць задумшчыкі пярвічнай, бо тады зуброў было няшмат. А цяпер прыдаўся б пралёт пад палотнішчам шашы, якім магла б перамяшчацца лясная звярына. Пад сучаснымі больш важнымі дарогамі такія ёсць...

Тэкст і фота **Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

ISSN 0546-1960 07